© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 5 (1864) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 2 ЛЮТАГА 1992 г. ЦАНА 1500 зл.



*На сцэне „Маланка".*

## ВЕЧАР КАЛЯДАК У БЕЛЬСКУ

Другі ўжо год у Бельскім доме культуры праводзіўся вечар калядак. З ініцыятывай такога вечара выступіў у мінулым годзе якраз БДК. Адклікнуліся на прапанову мясцовыя парафіі, як каталіцкія, так і праваслаўныя, ды ўсе, хто проста спявае калядкі. Паведамляліся таксама школы.

Мінулагодняя імпрэза ўдалася, спадабалася грамадскасці горада, таму арганізатары вырашылі паўтарыць яе і сёлета.

У пятніцу 11 студзеня зала Бельскага дома культуры не магла памясціць усіх аматараў калядак (уваход быў дармовы). Ды саміх выканаўцаў было каля 150 — у канцэрце выступіла 10 груп, у тым ліку чатыры праваслаўныя, астатнія рымска—каталіцкія.

Усіх прысутных прывітаў дырэктар дома культуры Сяргей Лукашук. Потым слова ўзялі кс. д-р Людвік Альшэўскі з парафіі Найсвятой Панны Марыі і айцец дэкан Юры Такарэўскі з Уваскрасенскае царквы. Святары падкрэслівалі, што калядкі гэта неадлучны элемент святкавання Хрыстовага Нараджэння і народнай абраднасці. У іх расказваецца, у зразумелай паэтычнай форме, пра вялікія падзеі ў Святой зямлі.

На Падляшшы сутыкаюцца розныя народы, розныя культуры. Гэтая зямля асабліва багатая сваёй народнай творчасцю, абрадамі. Каб гэтую

( Працяг на стар. 5 )

## АХВЯРЫ ІІ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ У ВЁСЦЫ РЫБАЛЫ

**Знаёмства з рыбалаўскім гаспадаром Лявонам Федаруком параіў мне настаяцель мясцовага прыхода а. Рыгор Сасна. Маўляў, цікавы чалавек, многа чытае, спазнае гісторыю гэтай зямлі.**

**І сапраўды, у хаце Лявона Федарука многа кніжак, свежыя газеты. Дзеці вучацца ў вышэйшых школах: дачка ў Беластоку на гістарычным факультэце, сын — у Менскім тэатральна-мастацкім інстытуце.**

**Сам Лявон Федарук дзеліцца са мною сваёй ідэяй:**

**— Гляджу я на нашу вёску і бачу — паміраюць старыя людзі і разам з імі памяць пра так, здавалася б, нядаўняе мінулае. Пакуль яшчэ хоць пару асоб, якія памятаюць вайну, жыве, надумаў я ўстанавіць прозвішчы ўсіх загінуўшых тады жыхароў нашае вёскі. Каб гэтыя прозвішчы дзесьці апублікаваць, быў бы ўжо гэта гістарычны дакумент. Я думаў пачаткова пра „Kramik Regionalny" ў „Kurierze Podlaskim", але там так аднабакова насвятляецца гісторыя нашага рэгіёна, што мне адышла ахвота насылаць ім свой матэрыял. Але і чакаць доўга нельга, бо я цяпер ужо меў вялікія цяжкасці з устанаўленнем надставовых дадзеных пра загінуўшых, а што будзе праз год-два!**

**Я запрапанаваў Лявону Федаруку даслаць плён сваіх пошукаў у „Ніву". Думаю, што публікацыя гэтага спіска зацікавіць не толькі гісторыкаў.**

МІКОЛА ВАУРАНЮК

У польска-нямецкай вайне 1939 года загінулі два жыхары Рыбалаў: **Аляксей Лукашук (27 год) — праўдападобна, абараняючы Варшаву, і Мікалай Паўлючук (26 год) — напэўна ў абароне Варшавы.**

**У савецкі час (г.г. 1940—41) у нявыясненых акалічнасцях загінулі: 18-гадовы вучань прафесіянальнай школы Пётр Якапюк** і 29-гадовы міліцыянер **Дзям'ян Супрунюк**. У Чырвоную Армію ( як чынная служба, так і запас) былі пакліканы і ніколі не вярнуліся: **Юльян Баніфацюк** (33 гады), **Ян Добаш**(31 год), **Пётр Дымітрук** (29 год) — памёр у лагеры для палонных у Даніі, **Аляксей Леановіч** (29 год), **Аляксей Лук'янюк** (35 год), **Лявон Мартынюк** (36 год) — загінуў над Дняпром, **Мікалай Міранюк** (33 гады), **Аляксей Шумялюк** (37 год), **Ян Галубоўскі** (25 год), **Уладзімір Ляпэўскі** (20 год), **Юры Ляснік** (25 год), **Мікалай Максімюк** (24 гады) — загінуў у 1944 годзе ў Балгарыі, **Юры Мартынюк** (23 гады) і **Юры Асіпюк** (23 гады).

Загінулі з рук НКВД: **Васіль Іванюк** (35 год) — арыштаваны НКВД у 1940 г., **Тарэза Кленцнэр** (каля 7 год, каталічка) — вывезеная ў 1941-ым, памерла ў Казахстане; **Аляксандра Садоўская** (каля 60-ці, каталічка, бабка Тарэзы Кленцнэр) — вывезеная ў 1941-ым, памерла ў Казахстане; **Ян Салавянюк** (29 год) — арыштаваны НКВД ў 1940 годзе, **Васіль Анхімюк** (29 год) — арыштаваны НКВД ў 1944 г. за супрацоўніцтва з немцамі.

У ліпені 1941 г. каля школы ў Рыбалах польскія паліцыянты затаўклі кіямі **Юрыя Карчэўскага** (не было яму яшчэ 40-ка). Дабіў яго з пісталета немец.

З арміі Андэрса не вярнуўся **Васіль Нікалаюк** (21 год) — загінуў ён 11 лютага 1944 г. у Італіі.

У нямецкім канцлагеры Штутгоф загінулі арыштаваныя 14 студзеня 1943 г.: **Яфім Дымітрук** (38 год), **Ян Стэпанюк** (30 год), **Аляксандр Паўлючук**(52 гады). У 1942 г. у Варшаве арыштаваны быў гестапаўцамі **Язэп Кленцнэр** (за 40 год, католік), які з іхніх рук і загінуў. У Траблінцы загінуў яўрэй **Лейба Рагоўскі** (за 30 год). Не вярнуліся вывезеныя на работу ў Нямеччыну ў 1942 г. **Васіль Ляснік** (29 год) і **Мікалай Асіпюк** (20 год). Капаючы акопы для немцаў у ліпені 1944 г., загінулі: **Амброзій Герасімюк** (53 гады), **Юстыпян Ляснік** (48 год), **Пётр Ляўчук** (22 гады), **Юры Лукашук** (35 год) і **Мікалай Лук'янюк** (21 год).

( Працяг на стар. 8 )

## ДЗЕЦІ ЧАРНОБЫЛЯ Ў БЕЛАСТОКУ

15 студзеня 1992 года ў царкве Прамудрасці Божай у Беластоку адбылося развітанне з групай дзяцей з чарнобыльскай зоны. На Беласточчыне дзеці пабывалі два тыдні — гасцявалі ў сем'ях прыхаджанаў. Была гэта першая, саракаасабовая група, якую ў гэтым ўстане з імі справіцца — кіраўніцтва партыі звярнулася за дапамогай да Праваслаўнай Царквы. З таго часу праваслаўныя святары штораз больш ангажуюцца ў акцыю арганізацыі аднапачынку. Аднапачасна, па гэты і той бакі дзяржаўнай мяжы ўзнікаюць грамадскія арганізацыі, мэтай якіх каардынацыя гэтай



*Чарнобыльскія дзеці перад царквой Прамудрасці Божай.*

годзе беластаччане прынялі да сябе на адпачынак.

Грамадскі рух дапамогі пацярпеўшым ад радыяцыі дзецям пачаўся ў 1990 годзе. Першая група дзетак прыехала на Беласточчыну ў канцы чэрвеня 1990 года — прынялі яе тады дзеячы Беларускага дэмакратычнага аб'яднання. Неўзабаве, аднак, сталі прыязджаць на Беласточчыну наступныя групы, усё больш шматлікія. БДА не было акцыі. З нашага боку ад пачатку самым дзейным арганізатарам аднапачынку быў настаяцель прыхода Усіх Святых у Беластоку а. Аляксандр Хіліманюк. Цяпер як з нашага, так і з беларускага боку выезды беларускіх дзяцей на Беласточчыну арганізуе выключна праваслаўная царква, а дакладней кажучы, дамаўляюцца паміж сабою ў гэтай справе паасобныя прыходы.

( Працяг на стар. 6 )

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

БЕЛАВЕЖА
СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА А'ЯДНАННЯ
№ 386

МІРА ЛУКША

*Э.Ю. Літвіну*

* * *

Збірайся, наш дружа, у далёкі паход,
Чысці каня, меч з іржы абдзірай:
Хай блішчыць, як паходня, хай салодкі як мёд
Будзе ўдар, як агонь; хай звініць на ўвесь край.

Каню дай аброку, дай сцюдзёнай вады,
І жалезных на шчасце падкаваў,
Усе чатыры — як звон, каб пазбеглі бяды,
Калі будзеш імчацца ў прадсвеце ружовым!

І аблі твар халоднай вадой —
Як з вядра хай плыве цераз сэрца.
Закіпіць, зашыпіць плынь Дняпра, калі бой
Зла з дабром і святла з цемнатою пачнецца.



**********

ВІКТАР СТАХВЮК

* * *

мне
б
апошняй
птушкай
у
ключы
паляцець у вырай
ад
учарашніх Ідалаў
партрэтных позіркаў
ад
мазолістых каленяў
зашнураваных вуснаў
замарожаных сэрцаў
ад
распяццяў
войнаў
пагроз
экалёбыля
чорных снегападаў
узляцець
у млечны
шлях
дзіцячых
сноў
ачалавечыцца

* * *

жыву
з укрыжованай надзеяй
з якой
абсыпаюцца
бязглузда
панаклейваныя
мроі
калі
памутнеў іх фіялкавы колер
якія ўжо непатрэбны адвечнай раніцы
што
адчыняе
дзверы
у
шэрае
неба
дня
іду
спатыкаюся
аб
яго
крохі
за хлебам надзённым
ён вырастае за араратавай гарой



ЗОСЯ САЧКО

**я в дома**

мыецца куот
а госці нэ іэдут

шугае віэтёр
в пустых садках
— страхі находят

біэлэ сьвіэтло
в накрохмалянуй постэлі
чорна нуоч



* * *

всё давалось як на дарогу
і слёзы і сьміэх
і труд напрасны

**********

АНДРЭЙ СЦЕПАНЮК

**Адыход**

антарктыка застаецца
зачараваным светам
збянтэжанняў
першага (сон)
другога (разбуджэнне)
трэцяга (ява)
сказаць што гэта
лёд і вада
зачыніць першыя
(сонныя)
дзверы
пацалаваць памятку
першага развaжання
выцягнуць з галавы
найпрыгажэйшы
з бачаных краявідаў

гэта амаль
усё
гэта амаль
спаўненне

можа часам
толькі
баляць вочы

ВАВУ

* * *

адно вока
адна радзімка
адзін уздых
на
маіх пазванках
хрыбта
чаму
адно
адна
адзін?
чаму я сама
а пазванкоў столькі
што
круцяць носам
і
хоць Твая
праўда
пытаю — Кумір —
чаму? чаму? чаму?
а
навакол пульсуюць
вясёлкі
пранізваюць панурасці
але не мае...
... о не мае!

**********

УЛ. ГАЙДУК

**ЖАНЧЫНЕ**

Эрас і Псыхэ, ты і я —
Флюід і полюсаў двух прыцяжэнне,
Адзінокім быў, цябе не знаў,
Надзея з верай у шчасце, ёсць тварэнне.
Я знаю, што прайграў жыццё,
Віна ўсё ж вып'ю поўну чарку,
Як добра, што цябе знайшоў,
Жывой душы прываблівую каханку.
У словах мёд, ў пачуццях крапіва,
У галаве палаюць вогненныя макі
І пачынаецца азартная ігра —
Трапіў ў палон, а іду ў атаку
Па дзікім зеллі у гудзенні пчол,
Як наркаман па зманліву атруту.
Галюцынацыі таемны сон
Так доўга сніўся і туманіў душу...
У кшталце постаці тваёй
Натхнення подых хвілі таямнічай.
Ты пэўна не такой была
Як вобраз, працяг думкі паэтычнай.
Ніколі не спазнаў я да канца
Чароўнасці тваёй дзявочай...
Быў момант і агеньчыкі ў вачах,
І цела роскаш у абдымках ночы...





© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016




9 студзеня г.г. Маладзёжнай арганізацыяй „Выбранецкія шыхты" утворана музычная служба „Галс", якая ставіць на мэце збор, перахоўванне ды распаўсюджванне беларускае музыкі розных накірункаў, а таксама музыкі іншых народаў у форме аўдыё- ды відэазапісаў, стварэння музычнага інфармацыйнага банку дадзеных ды архіва.

Вельмі хацелася б сабраць найбольш поўную відэа- і фанатэку. Таму звяртаемся да Вас па дапамогу: калі ласка, калі Вы маеце нейкія ўласныя зборы, то падзяліцеся з намі. Калі Вы згодныя, то разам з запісамі просім дасляць і падрабязныя звесткі пра гэтыя творы (выканаўца, год запісу, назоў альбому, песняў, фірмы, якая зрабіла запіс).

На жаль, пэўныя цяжкасці, якія існуюць на гэты момант (дарагавізна аўдыё- ды відэакасетаў, забарона перасылкі іх за межы Беларусі ды інш.) не дазваляюць нам наладзіць з Вамі паўнавартае супрацоўніцтва.

Але гэта часовыя перашкоды.

Мы чакаем Вашых лістоў. Адкажам на ўсе Вашыя пытанні і дашлем нашыя музычныя каталогі.

Дырэктар Выбранецкае музычнае службы „Галс"

**Юрай Міхно**

Наш адрас: Рэспубліка Беларусь, 222600 г. Стоўпцы вул. Цітова, 12—1 ВМС „Галс"

**Паважаная Рэдакцыя газеты „Ніва"!**

Да Вас звяртаецца з просьбаю жыхар Рэспублікі Беларусь Васілюк Іван Фёдаравіч, які жыве ў адміністрацыйным цэнтры нацыянальнага парка„ Белавежская пушча" — вёсцы Камянюкі. Дапамажыце, калі ласка, знайсці сваіх родзічаў і сваякоў па прозвішчы Васілюк, якія павінны былі пражываць у пушчанскім краі. О, як хацелася б, каб хтосьці з Васілюкоў напісаў мне ліст і коратка расказаў аб сваёй радаслоўнай. Справа ў тым, што я, былы жыхар вёскі Бубель Стары, Люблінскае ваяводства, перасяліўся ў 1944 годзе ў Рэспубліку Беларусь, дзе жыву і цяпер. Памятаю гаворку маіх бацькоў аб тым, што мой дзядзька Васілюк, родам з вёскі Гнойна, пераехаў на сталае жыхарства ў Белавежскую пушчу. Быў бы вельмі рады весткам патомкаў майго дзядзькі Васілюка па адрасу: **225063 Рэспубліка Беларусь, Брэсцкая вобл., Камянецкі раён, п.а. Камянюкі, вул. Пушчанская, 20, кв. 1. Васілюк Іван Фёдаравіч.**






**Да стагоддзя з дня нараджэння Браніслава Тарашкевіча**

# ПРЫГОЖАЯ ПОСТАЦЬ НАШАГА ПАГРАНІЧЧА

Напісала нам **Аляксандра Бергман** з Варшавы: „У гэтым годзе мінае сто год з дня нараджэння Браніслава Тарашкевіча. Сёння прыпамінаюць Яго „Беларускую граматыку для школ". Я пра Тарашкевіча пісала многа. Сёння прапаную Вам прачытаць Яго ліст да сям'і, напісаны 7 снежня 1931 года пасля смерці бацькі".

Ліст гэты Браніслаў Тарашкевіч пісаў у астрозе. Прыпомнім, што пасля вызвалення з турмы (упершыню быў ён арыштаваны ў 1927 г. і асуджаны ў 1928 г. на 12 год зняволення, але ў 1930 г. выпушчаны спецыяльным распараджэннем Прэзідэнта РП) Б.Тарашкевіч вёў палітычную дзейнасць па-за межамі Польшчы — між іншым, у Гданьску і Берліне. 5 лютага 1931 г., калі транзітным вагонам праязджаў праз тэрыторыю Польшчы, быў арыштаваны ў Тчэве. У час следства сядзеў у турмах у Варшаве і Гродне. У выніку судовага працэсу, які адбыўся ў лістападзе 1932 года ў Вільні, Браніслаў Тарашкевіч быў асуджаны на восем год турмы і на дзесяць год паражэння ў правах.

Мае родныя, дарагія!

Толькі праз месяц я даведаўся аб смерці нашага Таты; так доўга ішло пісьмо! Я ведаю, як Вам усім цяжка і баліць сэрца, бо ўсе яго так моцна любілі, але мне то няма нават перад кім паплакаць і пажаліцца. Не перастаю аб ім думаць і часта мне здаецца, што віджу яго жывога.

А здавалася быў такі дужы і здаровы і пэўне, каб не ўсе гэтыя клопаты і згрызоты, яшчэ жыў бы доўга. Але ж відаць, нікому не суджана жыць вечна, а нам усім няхай будзе пацехай, што жыў справядліва, працавіта і пакінуў па сабе добрую памяць у людзей, у ўсіх, што яго зналі.

Цяпер засталася ў нас адна наша Мама. Дык любіце яе і ўважайце, мае родныя, няхай свае астатнія гады дажыве без згрызотаў. Пасля Таты яна застаецца гаспадыняй і старшыной над вамі. Жывіце згодна і слухайце яе, то не пашкадуеце. Рабіце і далей так, каб было, як Тата хацеў. Лепей уступіце адзін другому, а не сварыцеся.

Я жыву па-старому, чакаю суда. Можа каля новага року і прывязуць да Вільні, так хацеў бы пабачыцца з Вамі, найболей з Мамай, калі ёй марозы не пашкодзяць. Верачка Вам напіша калі і як. Найлепей, каб Вы з ёй і спакталіся ў Вільні. Яна мной апякуецца надта добра і падтрымлюе і дух і сілы. Цяжка, але трэба ўсё перанесці і выцярпець, такая доля ўжо прыпала на мой лёс. Не сумуйце па мне, бо і я аб сабе не плачу. А гараваць няма што, бо чалавек не ведае, што яго чакае заўтра і што было б, каб было не так як ёсць. — Маме надта дзякую за кажух і шапку. Захаваю гэтым памятку ад Таты. Юзіковага малога Бронюся я і не знаю. Няхай гадуецца, будзем доляцца. Часта думаю аб усіх Вас і дзяцёх. Калі ізноў Вас усіх у Чарналішках пабачу — не ведаю. Я надта рады, што хоць Верачка была ў Вас і праводзіла Тата на магілку. Шкада, што не было Дзюка і не пабача болей ужо свайго дзядуля.

Маму, Тэклечку, братову, Юзюка, швагра і ўсіх дзяцей абымаю і моцна цалую і прашу жыць згодна і дружна, бо ў згодзе сіла.

Усім цёткам і дзядзькам, добрым суседзям, знаёмым паклоны, а паіменна ўсіх выпісаць не хопіць мейсца.

Ваш Бронюсь.

7.XII.31.

* * *

Нядаўна выйшаў з друку 8—9 (241—242) нумар месячніка „Literatura na Świecie" за жнівень-верасень 1991 года, у палове прысвечаны беларускай літаратуры (пра гэты нумар напішам абшырней у асобнай публікацыі). Сярод публікаваных твораў змешчаны публіцыстычны тэкст Браніслава Тарашкевіча „Беларускія палітычныя пастулаты". Артыкул гэты надрукаваны быў у варшаўскім часопісе „Przymierze" ад 15 жніўня 1920 года і да гэтай пары нідзе ён не перадрукоўваўся. Тэкст да друку падрыхтаваў **Стэфан Бергман**, які ў каментарыі напісаў:



*Браніслаў Тарашкевіч у Радашковічах. Лета 1930 года.*

„Значная частка гэтага тэкста мае ўжо толькі гістарычнае значэнне, але ў ім змешчана многа дэталяў, фактаў, дагэтуль невядомых. Аднак мае ён пазнавальнае значэнне: гэта істотны матэрыял да пытання аб гісторыі польска-беларускіх адносін. Напісаны ён быў семдзесят год таму назад. Зараз ужо іншы свет. Іншыя палітычныя суадносіны. Не змянілася аднак імкненне беларусаў да таго, каб быць гаспадарамі ў сваім доме, каб вызваліцца ад напластаванняў многіх дзесяткаў гадоў русіфікацыі і навязанай сістэмы жыцця. І не змянілася прага сапраўднага саюза народаў, без чыёй-небудзь дамінацыі.

*„Становішча саюза ў асноўным павінна быць пастаяннае і незалежнае ад усялякіх палітычных сітуацый: гісторыя не канчаецца сёння; мы знаходзімся далёка ад грамадскай і палітычнай раўнавагі. Трэба заўсёды мець на ўвазе той пастаянны прынцып, што абы будзем свабодным ўсе, або ніхто з нас, а безумоўным варункам пасяхаовасці саюза павінна быць роўнасць паміж саюзнікамі".*

*Так пісаў Тарашкевіч семдзесят год таму назад. І гэта яго палітычнае завяшчанне, актуальнае таксама і сёння".*



*Бацькі Браніслава–Алена з Чарняўскіх і Адам Тарашкевіч–пры ганку сваёй сядзібы.*

* * *

*Да гадавіны Браніслава Тарашкевіча выйшла ў Менску пад канец 1991 года кніжка „Выбранае: Крытыка, публіцыстыка, пераклады" *). У абшырным уступе, азагалоўленым „Слова, сказанае ў абарону сейбіта", рэдактар выдання* **Арсень Ліс** набліжае чытачу постаць Браніслава Тарашкевіча, які да нядаўна вядомы быў перш за ўсё як аўтар першай граматыкі беларускай літаратурнай мовы і перакладаў „Пана Тадэвуша" Адама Міцкевіча і„Іліяды" Гамера. Аўтар уступу знаёміць чытача са шляхам маладога Тарашкевіча да палітычнай дзейнасці, з яго парламенцкай барацьбой за правы беларусаў на форуме Сейма міжваеннай Рэчыпаспалітай Польскай, з турэмнымі зняволеннямі ў Польшчы і з парадаксальна трагічным яго лёсам у Савецкім Саюзе.

„Публіцыстычная творчасць Тарашкевіча, — піша Арсень Ліс, — ўзыходзіць да лепшых нацыянальных традыцый у гэтым жанры (...). Увабраўшы ў сябе надзённыя сацыяльныя і нацыянальныя праблемы свайго часу, яна захоўвае не толькі гісторыка-культурную цікавасць, а даносіць да нашага часу, які дапытліва глядзіць у будучыню, атмасферу і практыку перыяду актыўнага палітычнага жыцця народа. Яна тычыцца многіх фундаментальных праблем, якія маюць непрамінальнае значэнне для жыцця нацыі. Нарэшце, пранікнёнае, мужнае, палымянае слова Тарашкевіча даносіць да сучаснага пакалення, што заступае на новы грамадскі рубеж, непаўторны вобраз эпохі барацьбы і надзей".

У першым раздзеле „Культурна-асветныя артыкулы" змешчаны мова- і літаратуразнаўчыя эцюды ранніх і апошніх год яго жыцця.

Другі раздзел гэта „Палітычная публіцыстыка". У ім чытач знойдзе дваццаць восем сеймовых прамоў пасля Тарашкевіча з 1923-1926 гадоў, якія павінны зацікавіць не толькі гісторыкаў, але і сённяшніх нашых палітычных дзеячоў.

У трэцім раздзеле „Пераклады" знаходзяцца фрагменты з „Іліяды" Гамера. У заканчэнні змешчаны каментарыі да паасобных артыкулаў. Кніжка выдадзена ў серыі „Спадчына".

---

**) Браніслаў Тарашкевіч, Выбранае: Крытыка, публі-цыстыка, пераклады (Укладанне, уступ, каментарыі Арсеня Ліса), Мінск, „Мастацкая літаратура", 1991.*

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ВЕЧАР КАЛЯДАК У БЕЛЬСКУ

( Працяг са стар. 1 )

абраднасць захаваць і папулярызаваць, трэба якраз арганізаваць такія сустрэчы, як вечар калядак у Бельску.

Калядкі гучалі розныя, са сцэны і з залы, паўсюдна вядомыя, як „Ціхая ноч", і менш папулярныя. З цікавымі беларускімі калядкамі выступіў калектыў „Маланка" з БДК. Усім спадабаліся дзеці з Пачатковай школы н-р 1 з Бельска, якіх рыхтавау Дарафей Фіёнік. Пад канец вечара ўжо амаль уся зала спявала супольна. На канец хор з Прачысценскай царквы праспявау якраз „Ціхую ноч" на розных мовах, а за ім і ўсе прысутныя, у тым ліку і намеснік бурмістра Бельска-Падляшскага Рышард Жэпнеўскі.

Вечар калядак абышоўся арганізатарам недзе ў паўмільёна злотых — у наш час невялікія гэта грошы. Узнагарод выканаўцам не прызнавалі, але ўсе калектывы атрымалі скромныя сувеніры — музычныя паштоўкі. У Бельскім доме культуры выступілі тыя, хто сапраўды любіць спяваць. Як выявілася, асоб такіх нямала.

Можна сказаць, што БДК знайшоў рэцэпт на арганізаванне за невялікі кошт вельмі цікавага і карыснага мерапрыемства. Арганізатарау трэба толькі прывітаць з такой ініцыятывай, тым больш, што вечар калядак намерваюцца яны праводзіць таксама ў будучыні.

На заканчэнне хачу закрануць адну справу, аб чым прасіў мяне дырэктар БДК Сяргей Лукашук. Ёсць вялікія цяжкасці з вышукоўваннем праваслаўных калядак. Каталікі ідуць сабе ў кнігарню і купляюць там спеўнікі на польскай мове. Можа царкоўная іерархія падбала б пра выданне такога ж праваслаўнага спеўніка. Бо сціпленькі зборнік „Калядоўшчыкі", выдадзены два гады таму Беларускім аб'яднаннем студэнтаў, не забяспечвае ўсіх патрэбаў.

**МІКОЛА ВАУРАНЮК**
**Фота аўтара**

**P.S. Сяргей Лукашук паінфармаваў мяне, што ў Бельскім доме культуры і ў сядзібе ГП БГКТ па вул. Варшаўскай 11 можна купіць касетку з народнымі беларускімі песнямі ў выкананні калектыву „Маланка". Чытачоў „Нівы" і слухачоў беларускіх праграм Беластоцкага радыё, думаю, знаёміць з „Маланкаю" не трэба. Варта толькі дадаць, што касета запісана ў студыі на высокім прафесіянальным узроўні.**



*Дзеці з Пачатковай школы н-р. 1 у Бельску.*



*Зала ледзь-ледзь змяшчала ўсіх аматараў калядак.*

Піражкі з макам

## ВЕР — НЕ ВЕР

Прысніўся мне бязглузды сон — быццам Макотру занялі кітайцы. І наша жыццё загучэла па-новаму. Заходжу ў рэдакцыю. Галоўны Лу Ба ў маоцзэдунцы, не пазнае мяне, пагрозліва маўчыць. Потым бярэ з паліцы свежы нумар газеты і, велікадушна падарыўшы мне сігнальны экземпляр, з непрыкрытай радасцю сочыць за маімі душэўнымі мукамі. Які кашмар! Родны орган называецца цяпер „Ніхуа". А мой кумір Зялёнае Сонейка (цяпер Бар Шу-мінь) у перадавіцы „Ля Вялікай сцяны" заклікае макотранцаў ісці ў пагаду. На літаратурнай старонцы, перайменаванай у „Белы Хінган", і ягоны аднаўленчы верш:

Мао! Наш Война,
Цзэ-дуне-Прароку,
Народ макатранскі
Усё ж дачакаўся,
Воля Твая плыве
Па краіне.
Слаўся, Макотра, і Мао
Слаўся!

Далей — усё цікавей. У рубрыцы „Нашы карані" вучоны Гай Ду-чу усхваляе мангольскіх наезнікаў (цяпер святых вялікамучанікаў) і знаходзіць наша гняздоўе ў славутай дынастыі Ма. Аб адкрыцці макатранскай навукі храніст Са Кра-чэ шпарыць допіс у „Жэньмінь жыбао". Не адстае ад калег і д-р Чжан Чык-він, пасяпахова перасаджвае на тутэйшы грунт паўзабыты плод „Сто кветак". Кітайскае дрэўца ў нас будзе звацца „Сто Васількоў".

Змяніў характар і белапірагійскі музей. Толькі што жрэц Май Сень-янь адкрыў выстаўку аб гадоўлі качак у правінцыі Цзянсу. На Далёкі Усход накіравала свае крокі і нястомная падарожніца Ча Чу-га. Яе карэспандэнцыі пакажуць непраўдападобнае багацце „жывапісу кветак і птушак„.

Толькі Шва Дунь, як і раней, не можа разабрацца, у якую трапіў Рэчыпаспалітую, зусім зблыталіся нумары. На ўсякі выпадак высмажыў двухрадкоўе:

Знікла ў бяспамяцтве Б(я)ДА,
На новы шлях! Жыве Буда!

Гэтым настроіў супраць сябе Ста Хвюна, які ўзначаліў сёння сотню хунвейбінаў (у нас бязбацькавічаў). Чакае, бедалага, расправы.

Тут, як чорная хмара, урываюцца ў рэдакцыю падручныя сотніка Ста Хвюна, хапаюць мяне пад рукі і цягнуць у пагаду. Добра, што яна пад бокам, на месцы былой царквы св. Мікалая. Увапхнуўшы ў новы храм, ставяць мяне на калені перад халоднай і варожай гранітнай глыбай (выліты Са Кра-чэ, калі хмурыцца) і настаўляюць:

Змяні прозвішча... змяні прозвішча...

А я заваражаны акамянелым тварам Прарока, не магу вымавіць ні слова. Урэшце глыба паварухнула свае акамянелыя губы і вымавіла:

— Надзець паганцу на шыю дошку ганьбы і на мыла... на мыла... на мыла...

І я, як вы здагадваецеся, прачнуўся. Бачу у руках „Ніва", апгымістычная і сяброўская, Віталь Луба прывітліва ўсміхаецца, Алесь Барскі па-брацку абнімае і кліча ў царкву, Мікалай Гайдук адкрывае Меркурыя Смаленскага, Ян Чыквін падсумоўвае здабыткі „белавежцаў", Сакрат Яновіч пацее над допісамі ў яснапалійскую „Палітыку", Ада Чачуга раскашуецца ў нью-йоркскіх кватэрах Піражкевічаў, Віктар Стахвюк перажывае будучыя перамогі. Толькі Віктар Швед у разгубленасці, не знаходзіць надзейнага берага, плыве па плыні. На ўсялякі выпадак накрапвае ён „царкоўны цыкл" і просіць Астрона разгадаць сон пра цудадзейны жэньшэнь.

Як казаў старшы брат, жить хорошо и жизнь хороша. І галоўнае — весела.

А чаму заснуў? Здараецца.

Да сустрэчы ў „Ніве"!

**СІДАР МАКАЦЁР**
**(Недаспелы Ма Кай-шы)**

# НАШЫ КАРАНІ

### XXVII. НЕПАХІСНЫЯ

Невыносная татарская няволя або сталая пагроза знішчажальнага ардынскага нашэсця прымушалі ўсіх князёў ва Усходняй Еўропе шукаць апоры і збройнай дапамогі ў краінах Заходняе Еўропы. Тады ўсе заходнія краіны, як вядома, былі каталіцкімі, а іхнім духоўным правадыром і ў значнай ступені палітычным кіраўніком была Апастольская сталіца на чале з папам рымскім.У той жа час амаль уся Усходняя Еўропа, частка Малой Азіі і Балканы былі праваслаўнымі і іх натхняючай душою быў узначалены патрыярхам Канстанцінопальскі патрыярхат. Пачынаючы з 1054 г., калі наступіў канчатковы падзел хрысціянства на рымска-каталіцкае і праваслаўнае адгалінаванні, Апастольская сталіца няспынна намагалася рознымі спосабамі падпарадкаваць сваёй уладзе Праваслаўную Царкву. Каталіцкія рыцары ў 1204 г. нават захапілі Канстанцінопаль, а праваслаўны патрыярх вымушаны быў жыць да 1264 г. на эміграцыі ў Нікеі /Малая Азія/.

Крыжацкі ордэн мечаносцаў, які ў тым часе, калі пад ударамі яго „братоў" гінуў праваслаўны Канстанцінопаль, а яго жыхароў пад пагрозай смерці перахрышчвалі ў каталіцызм, апаноўваў Рыжскае пабярэжжа Балтыйскага мора і націскаў на беларускія і суседнія рускія землі. Мечаносцы стараліся выкарыстаць татарскую пагрозу і праваслаўнае насельніцтва навярнуць у каталіцкае веравызнанне. Гэтакім чынам былі захоплены беларускія княствы над ніжнім цячэннем Дзвіны і навісла пагроза над старажытным праваслаўным Полацкам.

Апастальская сталіца запрапанавала літоўска-беларускаму праваслаўнаму князю Міндоўгу каралеўскую карону і дапамогу еўрапейскіх краінаў у абароне ад татараў і падняволыных ім рускіх князёў, калі ён сам пяройдзе ў каталіцкае веравызнанне, ахрысціць у каталіцкую веру літоўскае язычаскае насельніцтва і схіліць праваслаўных беларусаў да уніі з каталіцызмам і падпарадкуе іх духоўнай уладзе папы рымскага. Міндоўг каранаваўся ў 1253 г. у сталічным Навагрудку на караля Літоўска-Беларускай дзяржавы, але беларусы і літоўцы вельмі непрыхільна ставіліся да новай рэлігіі, асуджалі Міндоўгаў учынак як здраду веры бацькоў. Да таго з Захаду ніякай дзейснай дапамогі супраць татарскай пагрозы не прыбыло. Таму Міндоўг неўзабаве парваў усе сувязі з Апастольскай сталіцай і вярнуўся да свайго ранейшага праваслаўнага веравызнання.

Таксама няўдачай скончылася спроба Апастольскай сталіцы павярнуць ва унію праваслаўнае Галіцка-Валынскае княства. Яго князь Даніла Раманавіч, заахвочаны абяцанкамі дапамогі ў вызваленні з татарскай няволі, прыняў ад папы рымскага каралеўскую карону, і ў 1253 г. у Дарагічыне каранаваўся на караля галіцкага. Аднак, потым, калі ніякая падмога дзеля вызвалення Галіцка-Валынскага княства з татарскага ярма не прыходзіла, а праваслаўныя падданыя сталі ганьбаваць князем-адступнікам ад веры продкаў, тады ён выдаліў са свае дзяржавы каталіцкую

( Працяг на стар. 8 )



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# Іх папараць-кветка або У амерыканскіх беларусаў

### 30.СКАРЫНІНСКІ ВЕЧАР У ААН.

Заўтра збіраюся дахаты. Казалі: застаньця, пабудзь яшчэ, у цябе ж віза на паўгода! Вырашыла, аднак, цвёрда, што паеду ў той дзень, на калі ўзяты білет — менавіта на сераду 27 верасня, тым больш, што на тварах маіх найцудоўнейшых гаспадароў можна было заўважыць ужо стомленасць. А гойсаць цэлы месяц па Амерыцы — гэта і так нямала.

Але сёння яшчэ аўторак. 25 верасня 1990 года. І чакае мяне шмат неспадзевак.

У часе суботняга „парты" мы мучылі Генадзя Бураўкіна, каб неяк пабываць у ААН. Я вельмі прасіла, каб найпазней паглядзець яго ў аўторак, бо выеду і не паспею.

Раптам у панядзелак атрымліваем запрашэнне ў Арганізацыю Аб'яднаных Нацый — на ... аўторак, на Скарынінскі вечар! Ага, праўда, Уладзімір Сакалоўскі з беларускага прадстаўніцтва мае паказаць нам яшчэ перад гэтым тое-сёе ў будынку ААН, ды, як высветлілася пазней, маем мы на гэта ўсяго мінут сорак.

Вось Рада Бяспекі. Уладзімір Сакалоўскі, які наогул засядае ў Камітэце дэкаланізацыі, пры ўваходзе ў гэту залу нешта гаворыць са здаравеннымі неграмі. Нас упускаюць у сярэдзіну. Ідзе якраз пасяджэнне. Прамаўляе, седзячы за сталом, Джэймс Бэйкер. Бачу таксама Эдуарда Шэварднадзе. Пераклад ідзе на шасці мовах (на рускай, кітайскай, англійскай, французскай, іспанскай, арабскай).

Месца Беларусі паміж Бурундзі і Камбоджай (паводле алфавіту). Якраз ААНу дайшоў быў Ліхтэнштэйн, і разам з ім у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый апынулася 160 дзяржаў. Але, казаў нам тады Уладзімір Сакалоўскі, неўзабаве зноў паменшае да 159, бо будзе адна Германія...

Ходзім хуценька па розных залах, аглядаем, што толькі можна. У спецыяльных памяшканнях пры калідорах аж кішыць ад журналістаў. Яны працуюць самымі рознымі прыладамі, перадаючы тут жа весткі аб галасаванні ў свае краіны. Атмасфера надта рабочая і надта нервовая.

На калідоры трапляюцца прыгожыя карціны. Бачу таксама цудоўнай прыгажосці габелен паводле „Гернікі" Пікасо.

Спяшаемся на вечар, які мае адбыцца ў памяшканні бібліятэкі ААН, у Клубе рускай кнігі. Арганізавала яго Беларуская місія пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Сабралася каля трохсот асоб, прыехала шмат мясцовых беларусаў і гасцей з Беларусі.

Міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка выступаў, як і прыстала, па-беларуску, але і ў кулуарах гаварыў таксама. Першы беларускі міністр, які нарэшце ўвёў у ААН беларускую мову, радасна сцвярджаючы тутэйшыя беларусы!

Міністр Пётр Краўчанка выступае не толькі як міністр замежных спраў, але і як член камітэта святкавання 500-годдзя Скарыны. Інфармуе аб урачыстасцях, якія адбыліся ў сувязі з гэтым у Менску, Полацку, а таксама якія маюць яшчэ адбыцца ў Парыжы, Кракаве і Празе, дзе пачыналася дзейнасць нашага вялікага земляка. Гэта гадавіна мае быць адзначана і ў Падуі, дзе вучыўся Скарына.

„Мы заўсёды былі на скрыжаванні трагічных падзей. Галгофа XX стагоддзя — Чарнобыль. Наш прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч і дэлегацыя прыехалі сюды, каб дамагацца рэзалюцыі наконт Чарнобыля. Маральную падтрымку дае нам неўміручая дзейнасць, подзвіг Скарыны", — сцвердзіў Пётр Краўчанка.

Памятаю як сёння той вечар, тым больш, што крыху ўдалося адразу аднатаваць. Адам Мальдзіс, адзін з першых узнагароджаных Медалем Францішка Скарыны, прывітаў гасцей ад імя беларускай Акадэміі Навук і Саюза беларускіх пісьменнікаў. Скарына быў такім тытанам працы, сказаў ён, што некаторыя беларускія літаратары нават сумняваліся, ці мог гэта зрабіць адзін чалавек. Выдадзенай у 1517 годзе ў Празе першай кніжкай „Псалтыр" ён даў пачатак беларускаму кнігадрукаванню. „Апостал" даў пачатак беларускаму кнігадрукаванню на беларуска-літоўскіх землях. Ён і перакладчык багаслоўнай літаратуры, і першы беларускі паэт. Філосаф, адзін з першых дактароў медыцыны. Батанік. Астраном. І... палымяны патрыёт. Так як звяры, казаў Скарына, ведаюць норы свае, так як рыбы ведаюць віры свае, так як птушкі гнёзды, як пчолы вуллі, так і людзі павінны ведаць ласку да зямлі сваёй, на якой былі ўскормлены.

Быў гэта вялікі міралюбца, казаў далей А. Мальдзіс, заклікаў да мірнага вырашэння спрэчак між людзьмі, прадбачыўшы многія бядоты нашага і наступнага стагоддзяў. Калі ў чалавека пераможа зло, меркаваў Скарына, то можа наступіць сканание свету. Гэтая перасцярога асабліва моцна гучыць у наш атамны век.

На вечары быў прысутны таксама нашчадак Францішка Скарыны — Стэнлі Скарына з Манрэаля, што ў Канадзе. Выступіў з прамовай і перадаў падарунак нью-йоркскім беларусам.

****************************************

# ДЗЕЦІ ЧАРНОБЫЛЯ Ў БЕЛАСТОКУ

( Працяг са стар. 1 )

— Вядома, — гаварыў мне а. Хіліманюк, — што ўсе дзеткі патрабуюць дапамогі, але раней вельмі часта прыязджалі да нас такія дзеці, якія, так сказаць, не ў першую чаргу патрабавалі гэтага адпачынку. Першую ў 1992 годзе групу дзяцей прывёз на Беласточчыну святар. Мы раней ужо мелі пра іх дадзеныя — хто дзе жыве, а нават ведалі, які ў каго характар, у сувязі з чым можна было знайсці адпаведныя ім сем'і тут.

У 1992 годзе Праваслаўная Царква намервалася прыняць на адпачынак у Беластоцка-Гданьскай епархіі 1200 дзяцей, з чаго 600 у Беластоку. Каардынатарам гэтай акцыі сабор епіскапаў назначыў а. Аляксандра Хіліманюка.

Сорак дзяцей з Лоеўскага, Брагінскага і Хойніцкага раёнаў правялі не Беласточчыне два тыдні, у часе якіх адсвяткавалі з беластоцкімі сем'ямі Каляды і Новы год. На развітанне а. Хіліманюк звярнуўся да іх са словам навукі, дзеці атрымалі малітоўнікі і іншыя царкоўныя кніжачкі. Навагоднія падарункі ўручыў дзецям Пятро Прышчэпка — кіраўнік беластоцкай гуртоўні „Сон-поль". Варта тут адзначыць, што Пятро Прышчэпка з акцыяй „Дзеці Чарнобыля" дзейна звязаны ад самога пачатку.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

**Фота аўтара**



*Навагоднія падарункі ўручыў дзецям Пятро Прышчэпка.*

# СЛАВА МАКСІМА ПАТРЭБНА НАРОДУ

*1990 год быў абвешчаны ЮНЕСКА годам Ф. Скарыны. 1991 — годам Максіма Францішка Багдановіча. 4 лістапада 1991 г. у Арганізацыі Аб'яднаных Нацый адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння М. Багдановіча. З інаўгурацыйнай прамовай, якую друкуем ніжэй, выступіў міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь* **Пётр Краўчанка**.

Паважаныя спадары і спадарыні!
Дарагія нашы суродзічы!
Шаноўная грамада!

Дазвольце мне ў якасці сябра Рэспубліканскага аргкамітэта па святкаванню 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча сардэчна вітаць Вас. Залаты юбілей вялікага паэта адзначае сёння ўвесь свет, адзначае ЮНЕСКА. Літаральна тыдзень назад у штаб-кватэры гэтай арганізацыі ў Парыжы ўжо адбыўся святочны вечар, на якім з прамовай выступіў кіраўнік дэлегацыі Рэспублікі Беларусь на Генканферэнцыі ЮНЕСКА наш выдатны паэт Анатоль Вярцінскі.

Мы ўпэўнены, што беларускія грамадскія аб'яднанні ў Беластоку, Маскве, Таліне, Рызе, Вільні, Празе, Клііўлендзе, Таронта, Мельбурне, Лондане і іншых месцах наладзяць святкаванне юбілею Паэта. Кульмінацыяй свята ў гонар М. Багдановіча будзе ўрачыстае пасяджэнне ў Мінску, у якім будзе браць удзел генеральны дырэктар ЮНЕСКА спадар Федэрыка Майор.

Хачу адзначыць, што правядзенне такіх мерапрыемстваў — гэта прынцыповы накірунак дзейнасці МЗС Беларусі. Есць пэўная логіка ў тым, што ўслед за 500-годдзем Ф. Скарыны, мы сёння ўшануем памяць М. Багдановіча, у наступным годзе — 110-годдзе Я. Купалы і Я. Коласа, у 1993 — яшчэ аднаго Максіма — Гарэцкага, у 1995/96 — 500-годдзе Мірскага замка. Усе гэтыя даты ўключаны ці будуць уключаны ў каляндар ЮНЕСКА. Так што, як вы бачыце, нам ёсць чым ганарыцца, ёсць што святкаваць.

Мы, як і ўсе народы свету, маем сваіх выдатных сыноў. Фізічна адыходзячы ад нас, у вечнасць, яны духоўна застаюцца з намі, сваім існаваннем, прыкладам жыцця, геніяльным яго прадбачаннем ядначць жывую повязь пакаленняў, вечнасць і неўміручасць нацыянальнага духу, несмяротнасць народа. І ў гэтым — існасць жыцця. Яны — духоўныя правадыры і настаўнікі нацыі, яе гонар і сумленне, шчасце і радасць, надзея і боль яе. Колькі будзе існаваць жыццё на зямлі, столькі сэрца кожнага беларуса будзе саграваць вечным сонейкам імя Максіма Багдановіча.

27 лістапада 1891 года на небасхіле нашай літаратуры назаўсёды ўзышла і ніколі не згасне зорка першай велічыні, зорка натхнення і кахання, спадзявання і веры ў лепшую долю аднаго з самых гаротных еўрапейскіх народаў. І ў гэтым быў нейкі цуд, нейкая нязгаднасць і таямнічасць. Як, адкуль і чаму маленькі хлапчук, страціўшы ў пяцігадовым узросце маці, адарваны на многія гады ад Маці-Радзімы, ператвараецца ў Паэта-Волата, Паэта-Прарока. Паэта, як кажуць, божай міласці і ласкі.

А ці не сімвалічна, што ў год нараджэння Максіма ў далёкім Кракаве з'явілася на свет „Дудка беларуская", якая быццам загучэла над калыскай геніяльнага дзіцяці, гаворачы Максімку: „У добры шлях", сцвярджаючы з'яўленне беларускай літаратуры новага часу.

І ён смела і хораша пайшоў па сваім кароткім 25-гадовым жыццёвым шляху, ні на кога не падобны, геніяльны ў сваёй прастаце, натуральнасці, свежасці і чысціні. Ён з'явіўся таму, што так было трэба: прыйшоў яго час і час яго народа, які доўга і маўкліва пакутаваў, марыў пра нацыянальнае абуджэнне. Прыйшоў на Радзіму, каб свежым позіркам чалавека, рамантычна закаханага ў Бацькаўшчыну, якая прыходзіла кожны дзень у снах і марах, убачыць тое, што іншым нявedама і нябачна. Бо большасць з нас, гэта тыя — хто, маючы вочы, усё застаюцца сляпымі, гаворачы словамі паэта, „сляпымі як крот".

Першае, што кінулася ў вочы — „гора ўсюды пануе. Гора ..." і чалавечая прыніжанасць, адсутнасць пачуцця чалавечай годнасці. Юнака уразілі словы Я. Купалы на гэты конт. І не толькі тыя,



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

Пасля дэманстраваўся на англійскай мове фільм „Францыск, сын Скарынін", выступала пяцёрка артыстаў з неіснуючага ўжо сёння ансамбля „Жывіца", заспяваў таксама дзве песні палачанін Сяржук Сокалаў-Воюш, які з дзяцінства хадзіў сцежкамі Скарыны.

А тады ўжо адбыўся надта ўрачысты банкет з індыкамі і ананасамі, ды якімі хочаш „дрынкамі". Адама Мальдзіса дык нават знервавала, што ўсе алкаголі тут мяшаюць з безалкагольнымі напіткамі; дык і кажа: „Мне наліце, калі ласка, чыстай „Белавежскай" — без ніякай „колы"!"

Найцікавейшай пазіцыяй на гэтым банкеце былі, аднак, людзі. Ніколі не падумала б, што за адзін вечар можна сустрэць столькі цікавых людзей, робячых дабро для беларускай справы!

І ўявіце сабе, што пасля такога банкету Данчык заўзяўся, што мусім яшчэ абавязкова пайсці ў Цэнтр Ракфелера „на дрынка". Як бы мала яшчэ было гэтых „дрынкаў" на прыёме ў Беларускай місіі ААН! Раечка Станкевіч яму памагае: яны ж возяць туды, у экзлюзіўны рэстаран на 65-ым паверсе, усіх гасцей — гэта ўжо амаль іхні рытуал. Я прашуся, што мне заўтра ехаць, а яны — тым больш налягаюць.

Паехалі: Данчык, Рая, Аня з Сяржуком, Міраслава Русак і Валянцін Стэх (з Вільні), Валя Якімовіч (без сына Руслана — замалады, яму ж толькі васемнаццаць; а ў Менску па прыездзе адразу ажаніўся), ды я.

Данчык, як заўсёды, элегантны, у вечаровым касцюме і гальштуку, увёў нас у гэты магічны свет. І тут прыкрая неспадзеўка. Не ўпускаюць Сокалава-Воюша. Не падабаецца ім яго вопратка. А Сяржук жа так стараўся: апрануў джынсы, адзідасы, на нацыянальную кашулю накінуў скураную куртку. А яны не ўпускаюць і ўсё! Замала элегантны. Раю Ані: „Скажы, што гэта беларускі нацыянальны касцюм! Можа ўпусцяць?!" Анечка просіцца ў негра, які прывітаў нас у дзвярах, тлумачыць яму. Негр, змерыўшы Сяржука ад галавы да ног, крыва ўхмыляецца і круціць адмоўна галавой.

Нічога не зробіш. Мы ідзем раскашавацца „ружовай свінкай" (так, здаецца, называўся наш „дрынк") ды смажанымі крэветкамі, а Аня з Сяржуком сыходзяць у кавярню, куды можна апранацца як хочаш і, выпіўшы там каву, доўга чакаюць у машыне, каб завезці мяне і Валю ў Манхасэт.

А раніцай жа Анечцы да працы...

*(Заканчэнне будзе.)*

**АДА ЧАЧУГА**




*На 65-ым паверсе ў Цэнтры Ракфелера: ( злева ) Рая Станкевіч, Данчык, аўтарка, Валя Якімовіч, Міраслава Русак і Валянцін Стэх. Сфатаграфаваў чалавек з-за суседняга століка.*

***

якія нам добра вядомыя і гучаць з гонарам, але і крышку іншыя:

„Невясёлая старонка
Наша Беларусь,
Людзі: Янка ды Сымонка,
Птушкі — дрозд ды гусь".

Малады паэт-рамантык не мог змірыцца з „кавалкамі грубага жыцця", якія ён, сілай свайго таленту і натхнення, пакляўсяператварыць у „жэмчуг пачуцця". У яго творчасці з'яўляецца новы тып героя, актыўнага, здольнага на подзвіг і самаахвярнасць.

Давайце ўспомнім і запомнім, што ў асобе Максіма Багдановіча мы бачым аднаго з першых беларускіх інтэлігентаў, галоўнымі рысамі якога была самаахвярнасць, невычарпальная любоў да простага люду, надзвычайная эрудыцыя. Акрамя чатырох славянскіх моў ён валодаў яшчэ пяццю еўрапейскімі, у тым ліку дасканала французкай мовай. Верлен і Бадлер, Рэмбо і Сюлі-Прудом, Гарацый і Шылер, Пушкін і Шаўчэнка заўсёды побач з ім, у эпіграфах яго вершаў, у сэрцы, у падсвядомасці. Адкрытасць свету, культуры розных народаў зямлі — квінтэсэнцыя яго таленту.

Давайце ўспомнім і запомнім, што гэта быў дасканалы перакладчык. Прывяду толькі узор яго творчасці як перакладчыка з нямецкай мовы.

„Стихи как женщины на диво,
Все переводы их дурны:
Когда верны — то некрасивы,
Когда красивы — неверны".

Давайце ўспомнім і запомнім, што гэта быў выдатны музыказнаўца, які ад маці атрымаў незвычайную музычнасць і вельмі тонка разумеў творчасць многіх вядомых кампазітараў (напрыклад, Мусаргскага).

Давайце ўспомнім і запомнім, што гэта быў і паэт наватар, які імкнуўся сцвярдзіць вобразна-выяўленчыя магчымасці роднай мовы і менавіта ён увёў у нацыянальную літаратуру тэрцыны, трыялет, рандо, санет і скерца.

Давайце ўспомнім і запомнім, што Максім Багдановіч быў сярод тых, хто больш жыцця любіў і шанаваў нашу мову. Яшчэ ў дзяцінстве яго вельмі ўразілі словы Ф. Багушэвіча: „Мова — гэта адзенне душы". І бачыцца мне, як стаіць малады Максім, зіхацяць яго вочы, квітнее сухотнай чырваннаю шчака і з вуснаў зрываюцца пранікнёныя словы Каруся Каганца, якія ён горача кідае ў зал, напоўнены вучнямі Дзямідаўскага ліцэя ў Яраслаўлі:

„Але, не! Наш народ не згіне, і прыйдзе тая часіна, што прачнецца наш русняк і скажа суседзям так: — Служылі мы вам — заплаціце вы нам! Нам грошай не трэба, бо свайго хопіць хлеба. А скажыце нам толькі: „Беларусы Вы". Вось колькі!"

Давайце ўспомнім і захаваем назаўсёды ў сэрцы тыя светлыя жаночыя імёны, якія натхнялі паэта, яго „мадон", без якіх яго творчасць страціла б усхваляванасць. Вечная асалода недасягальнасці, веліч нязддзейнасці, зачараванне „высокаю красою" — магутныя рухавікі яго творчасці. Гэта яны — Анна Какуева, незнаёмая нам Клава, Эмілія Шабуня (родная сястра Івана і Антона Луцкевічаў), Людвіка Сівіцкая (Войцік), Валянціна Кацарэўская будуць навечна з паэтам і з намі. Легендарныя і далекія імёны, але дзіўна блізкія да нас. У гэтай зале сёння наш спявак Б. Андрусішын (Данчык), яго маці і бабуля — самыя блізкія сваякі Эміліі Луцкевіч. Цяжка ўявіць, але гэта так: дачка Эміліі — Яніна Каханоўская, якая сёння сярод нас, памятае цяплыню Максімавых рук, які яе не адзін раз трымаў на руках. Ці, напрыклад, Людвіка Сівіцкая (беларуская паэтка Зоська Верас), якая памерла 9 кастрычніка б.г., не дажыўшы да свайго 100-годдзя меньш года. Калі мы ў Мінску ратавалі апошні дом на Рабкораўскім завулку, які „сваімі вачыма" бачыў М. Багдановіча, то менавіта яна дакладна апісала нашым мастакам тое памяшканне, дзе сустракалася з Максімам (дзе што стаяла, які быў колер сцен, вакон). Уяўляючы ўсё гэта, разумееш, што з пункту гледжання вечнасці, 100-годдзе — гэта імгненне.

Давайце добрым, ласкавым словам успомнім сваякоў і сяброў паэта, яго настаўнікаў. Успомнім бацьку Адама і маці Марыю, родных цётак паэта Магдаліну і Марыю, Аляксандру Паўлаўну Волжыну, другую жонку бацькі, хрышчоную маці Вольгу Епіфанаўну Сёмаву (менавіта яна выпісала паэту „Нашу ніву"), настаўніка гісторыі беларуса Кабанава.

Успомнім і памянем добрым словам сёння бессмяротных Янку Купалу, Якуба Коласа, якія давалі дарогу ў друк першым яго творам. Успомнім літаральна праз некалькі дзён пасля Дзядоў тых, каго знаў М.Багдановіч і чые ўгодкі мы таксама адзначаем сёлета: 130-годдзе акадэміка Карскага, 100-годдзе Аркадзя Смоліча (які першым сустрэў паэта на вакзале ў Мінску), 110-годдзе Уладзіміра Ігнатоўскага і Івана Луцкевіча. Юбілей М. Багдановіча супаў і з 500-годдзем кірылічнага кнігадрукавання.

Так што нам ёсць каго ўспомніць, ёсць кім і чым ганарыцца.

27 лістапада 1891 года ўзышла наша зорка, 12 мая 1917 года паэта не стала. У апошні шлях яго не праводзіў ніхто з блізкіх яму людзей. Так часта бывае з вялікімі паэтамі. На стале, каля ложка, апошняга ложка паэта, асірацела ляжалі „Вянок" з закладкай на вершы „Зорка Венера", паштоўка, якую так і не паслаў бацьку, стаяла талерачка з першымі духмянымі суніцамі. Твар паэта быў спакойны і прыгожы, як быццам паэт прылёг адпачыць. Праз чатыры дні прыехаў бацька — Адам Ягоравіч — які, знаходзячыся ў Сімферопалі, атрымаў тэлеграму з Яраслаўля. Стоячы каля магілы сына, убачыў просты надпіс чарнільным алоўкам: „Максим Адамович Богданович — студент". Убачыў і ўспомніў простую беларускую прымаўку, бязлітасную народную мудрасць: „Усё заканчваецца чарвяком". Успомніў і зразумеў нарэшце адзін з вершаў сына:

„ І чаму паспяшаемся так,
Напружаючы ўсе свае сілы,
Калі ціха паўзушчы чарвяк
Усё ж дагнаў нас ля самай магілы".

Жан-Поль Сартр аднойчы трапна сказаў: „Слава — сонца нябожчыкаў. Слава ўжо не грэе Максіма, але яна сёння патрэбна народу. І дзеля таго, каб людзі Зямлі Беларускай адчулі сябе нацыяй, уздымаючымся народам, нам патрэбны Пантэон, Пантэон для тых, хто з'яўляецца гонарам і сумленнем нацыі. Беларускую дзяржаву трэба пачынаць будаваць з розных бакоў, не забываючыся пра продкаў, пра карані. І вельмі дзіўна, што сёння, калі можна зрабіць літаральна ўсё, сярод нашай інтэлігенцыі знаходзяцца людзі, якія, спасылаючыся на хрысціянскую традыцыю, выступаюць супраць вяртання Максіма на Радзіму і перазахавання яго ў Мінску. Як быццам прыклад з перазахаваннем Канстанцыі Буйлы і Івана Луцкевіча не гаворыць нам, што так можна і трэба зрабіць. Паэт, які ўсё жыццё імкнуўся на Бацькаўшчыну, пакуль што ляжыць „у зямлі, свайму сэрцу не мілай". І просіцца на свет пранікнёныя радкі Алеся Барскага:

„І на нашай прыгожай зямлі,
Дзе прасторна і вёснам, і зімам,
Як жа многа мясцоў для магіл,
Толькі месца няма для Максіма".

Давайце зробім так, каб будуючы Дзяржаву, мы не забыліся пра Пантэон, пра тое, што шануючы продкаў, мы будзем дбаць у рэшце рэшт і пра сябе, пра свой народ.

„На што ж на зямлі сваркі і звадкі,
Боль і горач,
Калі мы ўсе разам ляцім
Да зор?"

Так, стоячы тут і шануючы геніяльнага паэта, мы самі таго не разумеючы, ляцім да Зор, ляцім да яго!

Жыве і векі вечныя будзе жыць Беларусь!

**ПЁТР КРАЎЧАНКА**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

## ГУТАРКІ АБ МОВЕ

### IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. ЛЕКСІКАЛОГІЯ.

**8. Іншамоўныя словы ў лексічнай сістэме беларускай мовы — працяг**

**Грэцызмы.**

Грэчаскія словы пападалі ў беларускую мову ў розныя перыяды. Некаторыя былі запазычаны яшчэ ў старажытна-рускі перыяд, калі ўсходнія славяне мелі непасрэдныя кантакты з Візантыяй і грэчаскімі калоніямі на Чорным моры, а таксама ў сувязі з прыняццем хрысціянства, напр.: *акіян, аксаміт, апостал, карабель, манах, школа.1". Гэтыя даўнія запазычанні былі засвоены старабеларускай мовай, аб чым сведчыць наяўнасць іх у многіх беларускіх пісьмовых помніках, а таксама ў тагачасных слоўніках, у прыватнасці ў „Лексісе" Л. Зізанія і ў „Лексіконе" П. Берынды".2*

*Многа грэцызмаў было запазычана ў XVI—XVII ст.ст. Тады перакладаліся на беларускую мову рэлігійныя і навуковыя творы, а ў брацкіх школах вялося вывучэнне грэчаскай мовы.*

*Вялікая колькасць грэчаскіх слоў была запазычана ў XX ст. праз пасрэдніцтва рускай і польскай моў.*

*Галоўныя сферы ўжывання іх — навука і тэхніка:*

*— гісторыя: анархія, дэмакратыя, палітыка, тыранія,*

— філасофія і логіка: *гіпотэза, філасофія, эмпірыя,*

— мовазнаўства: *граматыка, дыфтонг, марфема, фанетыка,*

— літаратуразнаўства: *афарызм, камедыя, маналог, паэма,*

— мастацтвазнаўства: *амфітэатр, графіка, мелодыя, сімфонія,*

— астраномія і геаграфія: *акіян, архіпелаг, гарызонт, камета,*

— анатомія, батаніка, біялогія, заалогія: *аорта, амарыліс, бактэрыя, дэльфік,*

— медыцына: *анемія, астма, гангрэна, дыягназ,*

— фізіка і хімія: *азот, атам, катод, электрон,*

— матэматыка: *аксіёма, арыфметыка, геаметрыя.*3 Найбольш тыповыя рысы грэчаскіх слоў — гэта:

— пачатковыя гукі **а**, **э**: *агонія, азот, экзотыка, энергія,*

— спалучэнні **кс, ск, пс, мв. мп** у сярэдзіне слоў: *аксіёма, дыск, эліпс, сімвал, лампада,*

— прыстаўкі **а-, ан-, анты-, эў-**: *агонія, ангідрыд, антыген, эўфемізм,*

— суфіксы **-ад-, -ід-, -ік-, -ык-, -іск, -оск**: *лампада, піраміда; графіка, рыторыка, абеліск, хаос.*4

Запазычаная лексіка грэчаскага паходжання паступова падпарадкоўвалася граматычным нормам беларускай мовы.

1. Значная колькасць назоўнікаў захавала значэнне жаночага роду і канчатак **-а**: *ліра lyra, муза musa, нафта naphtha.*

2. У склад назоўнікаў жаночага роду ўвайшлі і грэцызмы на **-ma**, якія ў грэчаскай мове — ніякага роду: *драма drama, праграма programma, тэма thema, але сімптом (м.р.) symptoma.*

3. Частка грэцымаў жаночага роду на **-is** была запазычана са значэннем мужчынскага роду: *сінтаксіс syntaksis, эліпсіс elleipsis.*

4. Іншыя грэцызмы на **-is** захавалі значэнне жаночага роду, але набылі канчатак **-а**: *доза dosis, гіпотэза hypothesis.*

5. Асобныя грэцызмы на **-is** утвараюць суадносныя пары назоўнікаў жаночага і мужчынскага роду, што абумоўлена семантычна-стылістычнымі адрозненнямі: *база — базіс basis, фаза — фазіс phasis.*

6. Некаторыя грэцызмы на **-is** набылі значэнне мужчынскага роду і аснову на цвёрды зычны: *дэльфін delphis, дыягноз diagnosis.*

7. Частка назоўнікаў грэчаскага паходжання мужчынскага роду на **-os** захавала ў беларускай мове значэнне роду і фармант: *космас kosmos, трамбоз thrombos.* 8. Грэцызмы на **-os -es**, якія абазначаюць асоб па прафесіі, у беларускай мове выступаюць з асновай на цвёрды зычны: *атлет athletes, фізік physikos.*

9. Грэцызмы на **-os**, запазычаныя ў свой час лацінскай мовай, праніклі праз яе ў беларускую з канчаткам **-us**, які зліўся з асновай: *аспарагус asparagos, папірус papyros.*

10. Грэцызмы ніякага роду на **-on** у беларускай мове ўвайшлі ў склад назоўнікаў мужчынскага роду з асновай на цвёрды зычны: *канон kanon, лексікон leksikon.* Некаторыя страцілі элемент **-on**: *метал metalleion, тэатр theatron.*

11. Вялікую групу складаюць прыметнікі з суфіксам **-ічн-**, які ўзыходзіць да грэчаскага суфікса **-ik-** і славянскага **-н-**: *іранічны eironikos, метрычны metrikos.*

12. Пры запазычанні адбылася субстантывацыя часткі грэчаскіх дзеепрыметнікаў: *мікрафон mikrophonos, сіноптык synoptikos.*5

-------------------------

1. В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, І.М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексікалогія. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 57.

2. Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Фанетыка. Арфаграфія. Лексікалогія, Мінск 1961, с. 163.

3. Там жа, с. 163; В.П. Красней, ..., с. 57-58.

4. В.П. Красней, ..., с. 58

5. А.А. Станкевіч, Марфалагічнае асваенне грэцызмаў і лацінізмаў у сучаснай беларускай мове, у: Беларуская мова і мовазнаўства, Мінск 1974, с. 190—201.

## НАШЫ КАРАНІ

( Працяг са стар. 5 )

місію на чале з біскупам Альбертам і спыніў зносіны з Апастольскай сталіцай.

Не ўдалося таксама паслам з Рыма схіліць на унію з каталіцызмам князя Аляксандра Неўскага, які тады княжыў у Вялікім Ноўгарадзе. Не адступілі ад Праваслаўя і іншыя князі Паўночна-Усходняй Русі, хоць і да іх звярталіся са шматабяцаючымі прапановамі пасланцы папы рымскага.

Прыпамінаем гэтыя факты таму, што ў той час паўночная частка сённяшняй Беласточчыны належала да Наваградскага княства, якім уладаў Міндоўг, а паўднёвая частка — праўда, часова — уваходзіла ў склад уладанняў Данілы Галіцкага. Нагадваем пра гэта таксама і таму, што перамагаючы неймаверныя пакуты ў татарскай няволі ці жывучы ў безупыннай трывозе пра заўтрашні дзень, нашыя продкі ўжо 750 гадоў таму назад знайшлі ў сабе даволі сілы, каб не адступіцца ад бацькоўскае свае праваслаўнае веры.

**МІКОЛА ГАЙДУК**

## ДЗЕЛЯ ЗБЕРАЖЭННЯ НАТУРАЛЬНАЙ ПРЫРОДЫ

Як вядома, польская частка Белавежскай пушчы не поўнасцю ахоўваецца. Праўда, яна ўся знаходзіцца ў зоне ахоўваемага краявіду, але гэтая форма аховы не зберагае лесу перад пілой дрывасека. Галоўны ахоўны аб'ект — Белавежскі нацыянальны парк — займае плошчу 5346,44 га. Апрача яго, у розных месцах пушчы створана 13 запаведнікаў прыроды, якія разам займаюць 2256,69 га.

Зараз ідуць намаганні ў напрамку павелічэння плошчы нацыянальнага парку, тым больш, што рашэннем Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 16 верасня 1991 г. уся беларуская частка Белавежскай пушчы з прылеглымі землямі (87,6 тыс. га) ператворана ў нацыянальны парк. Наогул вучоныя хочуць давесці да таго, каб цэлая пушча (польская і беларуская часткі) была ўнесена ЮНЕСКА ў спісак сусветных біясферных запаведнікаў. Пакуль што ў такім спіску лічыцца толькі адна дзесятая польскай часткі пушчы, значыць, Белавежскі нацыянальны парк (дарэчы, юбіляр — 29 снежня 1991 г. яму споўнілася 70 гадоў).

Плануецца таксама стварыць у пушчы два новыя запаведнікі прыроды, якія называліся б „Падаляны" і „Семяноўка". Першы меў бы паверхню 17,88 га, а размешчаны ён ля паўднёвай мяжы Белавежскай паляны, каля сяла з такой жа самай назвай. Растуць тут пераважна дубы, грабы, елкі і вольхі. Асабліва мажныя дубы, многія з якіх можна палічыць помнікамі прыроды. Найстарэйшым ужо па 350 гадоў. З зёлак сустрэць можна чысцік лясны, падалешнік еўрапейскі, раўнаплоднік пылюшнікавы, двухпялёснік парыжскі, каратканожку лясную. У многіх месцах расце таксама ахоўваемы пальчатакарэннік плямісты.

Праектаваны запаведнік „Семяноўка" знаходзіцца паўкіламетра на ўсход ад сяла Баб'я Гара. Займаў бы ён паверхню 225 га. Мэтай яго стварэння з'яўляецца зберажэнне ў натуральным выглядзе фрагмента пушчы, якая вылучаецца багаццем расліннасці, на пабярэжжы тарфяной даліны Горнай Нарвы, па-суседску з Семяноўскім вадасховішчам. Вучоныя хочуць таксама даследаваць, як будзе уплываць працэс нагрувашчвання водаў на прыроду Белавежскай пушчы. З дрэў у запаведніку найчасцей сустракаецца вольха, ясень, елка, бяроза, сасна. Наогул расце тут звыш 200 відаў раслін, з якіх некалькі падлягае ахове — тайнік сэрцападобны, гудаера паўзучая, бяроза, дзераза: булавападобная і гадавая.

У планах адносна аховы пушчанскай прыроды ёсць таксама праект стварыць у пушчы краявідны парк. Яго мэты пакрываліся б з мэтамі існуючай зоны ахоўваемага краявіду.

Тэкст і фота
**ПЯТРА БАЙКО**



*У адным з пушчанскіх запаведнікаў — „Міхнаўцы".*

### АХВЯРЫ II СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ У ВЁСЦЫ РЫБАЛЫ

( Працяг са стар. 1 )

26 ліпеня 1944 года на хутары Трычоўка немцы жыўцом спалілі, у помсце за смерць двух сваіх афіцэраў, чатырох мужчын з Рыбалаў (загінулі там таксама мужчыны з іншых суседніх вёсак): **Мікалай Алексяюк** (42 гады), **Карп Наўмюк** (43 гады), **Кірыл Швайко** (40 год), **Хведар Швайко** (39 год).

Рыбалы раскінуліся па двух баках шашы Бельск—Беласток. Пад коламі нямецкай прычэпы 22.05.1942 года загінула 6-гадовая **Лідзія Лукашук**. 19.01.1945 года пад савецкую вайсковую машыну трапіла чацвёра дзяцей. На месцы загінулі: **Ян Андраюк** (10 год), **Пётр Галубоўскі** (10 год) і **Рыгор Паўлючук** (11 год). 22 студзеня памёр **Мікалай Свірыдзюк** (12 год).

Ад неўзарваных снарадаў загінулі: **Аляксандр Мартынюк** (12 год) — загінуў 5.09.1944 г. і **Ян Амельянюк** (12 год) — загінуў у 1945-ым.

Варта ўспомніць яшчэ аднаго чалавека, які загінуў ужо пасля вайны, але прычыны яго смерці ляжаць у варажнечы, выкліканай вайною. 17 сакавіка 1946 года ў Заблудаве польскія партызаны злавілі 20-гадовага **Уладзіміра Супрунюка** і забілі яго за тое, што быў апрануты ў савецкі вайсковы плашч. Разам 49 асоб. Сорак дзевяць ахвяр з аднае, хай сабе і немалой, вёскі.

**ЛЯВОН ФЕДАРУК**

*Праз тыдзень надрукуем спісак ахвяр II сусветнай вайны з вёсак Войшкі і Канюкі.*



© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# Зорка
## старонка для дзяцей



Размова дзяцей з Сакоў ( гм. Кляшчэлі ) з Юркам Ляшчынскім. Фота А. Максімюка

Беларуская народная казка




Гулялі па полі два маразы, два родныя браты — мароз Сіні-нос і мароз Чырвоны-нос.

Гуляюць-пагульваюць маразы, адзін аднаго пахвальваюць. А ноч ясная-ясная. Прасторна маразам на волі.

А ціха, так ціха, нібы жывой душы не засталося на свеце. Перабеглі маразы з поля на лес. Бегаюць, палускваюць, з дрэва на дрэва пераскокваюць, зайчыкаў палохаюць. З лесу ў вёску заскочылі і давай па даху страляць.

— Эге, — кажа мароз Сіні-нос, — усе пахаваліся, баяцца на двор вылезці.

— Няхай толькі вылезе хто — задамо яму страху, — адказвае мароз Чырвоны-нос.

Пачало развідняцца. Паваліў з каміноў дым густы. Заскрыпелі калодзежы. Павыходзілі мужчыны з хат. Хто малаціць пайшоў, хто ў лес па дровы збіраецца.

— Стой жа, брат, — сказаў мароз Чырвоны-нос. — Пабяжым мы на дарогу ў поле.

І пабеглі яны зноў у поле. Стаяць, прытуліўшыся, падарожных чакаюць.

Заскрыпелі сані на дарозе. Зазваніў дзесь званочак пад дугою.

У санях селянін сядзіць, коніка паганяе. А ззаду за ім зухаўскі вазок плыве, званочак пазвоньвае.

— Ну, чакайце ж вы, — кажа мароз Сіні-нос, — Ты бяжы за мужыком, а я за панам паганюся.

І пабеглі яны падарожных марозіць.

Доўга бег мароз Сіні-нос, пакуль пана дагнаў. Нарэшце дагнаў, пад футра залез, цяпло выганяе адтуль. Паціскаецца пан, ногі зябнуць, холад па целе пайшоў, панскі нос пасінеў. А мароз Сіні-нос толькі пасмейваецца. Ледзь да смерці пана не замарозіў.

А мароз Чырвоны-нос дагнаў селяніна і давай яго марозіць.

— Эге, мароз не жартуе, — кажа селянін.

Злез ён з саней, бяжыць, нагамі тупае, рукамі аб плечы б'е. Прабег так з паўвярсты, аж горача стала яму. Сеў сабе на сані, едзе — і гора мала.

— Ну пачакай жа, брат: прайму я цябе, як ты дровы секчы будзеш.

Заехаў чалавек у лес. А мароз Чырвоны-нос выперадзіў яго, у лесе чакае. Выпраг коніка селянін, сякеру ўзяў ды як пачаў секчы — горача стала яму. Скінуў кажух. А мароз і ўзрадаваўся: залез у кажух і давай там белыя кросны ткаць.

Зрабіўся кажух белы як снег. Насек дроў чалавек, да кажуха ідзе, а ён увесь абмёрз.

— Эге, браток, дык ты тут?

Узяў пугаўё ды як пачаў малаціць — ледзь жывы выскачыў мароз Чырвоны-нос ды драла ў лес.

Узлаваўся мароз Чырвоны-нос на селяніна, але ніякай рады даць яму не можа.

Апрацоўка

ЯКУБА КОЛАСА



# ЛЮТЫ

У гэтым месяцы вясна сустракаецца з зімой, і сустрэчы гэтыя праходзяць з пераменным поспехам, але зіма ўсё ж часцей дэманструе сваю сілу. Выюць мяцеліцы і завірухі, снежныя сумёты часам перагароджваюць вуліцы, а гурбы дастаюць да вясковых стрэх. Але калі-нікалі неба раптам становіцца незвычайна блакітным, прыгравае сонца, і асоўваюцца з дрэў снежныя шапкі, з'яўляюцца першыя ледзяшы.

Дзень прыкметна пабольшаў, выводзяць першыя вясеннія песні вераб'і і сініцы. Часцейшымі сталі адлігі. Чым вышэй сонца, тым часцей нешта патрэсквае ў лесе. Гэта лопаюцца шышкі, з якіх ва ўсе бакі разлятаецца насенне. Заўважаюцца змены і ў паводзінах птушак. Вароны і галкі блукаюць па снезе, лапочуць крыламі, водзяць цэлыя карагоды сарокі — у іх пачаўся час шлюбных гульняў. Аб гэтым сведчаць сляды, якія пакідаюць на снезе крылы. Глушцы, напрыклад, часта малююць крыламі цэлыя кругі.

Увогуле цёплыя лютаўскія дні — дні гульняў лясных насельнікаў. На палянах наладжваюць спаборніцтвы па скачках і бегу зайцы, нярэдка нават б'юцца, выдзіраючы адзін у другога поўсць. Маланкамі носяцца па вершалінах дрэў вавёркі, даганяючы адна адну, саскокваюць на зямлю і зноў знікаюць у голлі. На ўзлесках часам можна ўбачыць некалькі ланцужкоў лісіных слядоў.

А вось жыхарам рэк і азёр цяпер не да гульняў. Найбольш частыя заморы рыбы менавіта ў гэтым месяцы, калі кіслародныя запасы змяншаюцца да крэсу. І тут на дапамогу ёй павінен прыйсці чалавек. Неабходна высекчы як найбольш палонак, у крайнім выпадку можна абысціся і невялікімі лункамі, пакласці ў іх пучок саломы ці чароту. Там, дзе, напрыклад, ёсць хаткі андатры, заморы бываюць радзей.

У апошні раз можна ўбачыць у лютым снегіра. Хутка ён адляціць туды, дзе яшчэ доўга будзе зіма. А людзі з нецярпеннем чакаюць вясну.

# ЧЫМ ПАХНЕ ЗЯМЛЯ?

Чым жа ўсё-такі пахне зямля? Вось так, калі яе, толькі што перавернутую, халаднаватую яшчэ, возьмеш у руку, разатрэш у жмені — здаецца, у ёй і паху асаблівага няма. Зямля як зямля. Чорная, бурая, белаватая ці жаўтлявая... І пахне яна толькі зямлёю. А з яе, апладнёнай працаю, і з яе, да якой нават ніхто не дакранаўся, нараджаюцца ўсе пахі, якія толькі засведчылі, а можа, яшчэ і не змаглі засведчыць нават такія дасканалыя органы нюху, якімі ўзрадавала прырода звяроў і чалавека. Бо і пах агню, раскладзенага на ўзлеску ці ў полі, і пах свежага хлеба, які наганяе голад нават на сытага чалавека, і пах антонавак, якія цяжка згінаюць долу галіны, — усё гэта ад зямлі. І яна, зямля, ніколі не паўтараючыся, дае свой адменны пах кожнай кветачцы, кожнай расліне, кожнай ягадзе, хоць усе яны, калі ўважліва ўдумацца, пахнуць толькі зямлёю. Ды яшчэ, можа, сонцам, небам, ветрам і ўсімі чатырма порамі года...

Янка Сіпакоў

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



*Дарога звонкая, як сталь.* Фота Я. Целушэцкага.

Пятро Глебка

### ЗІМА

Зіма. Снягі. Мароз. Завеі.
Дарога звонкая, як сталь.
Бярозы ў шэрані сівеюць,
Палі бялеюць, як паркаль.

Люблю я раніцаю звонкай,
Запрогшы быстрага каня,
Імчацца ў лес наперагонкі
З далёкім воблакам з паўдня.

А лес стаіць маўклівa, ціха,
Не звярухне свайго галля...
Зіма, зіма... Бы ў цвеце ліпа,
У белым снезе ўся зямля.

Люблю я гэтым белым полем,
Дзе месяц пыл ацерушыў,
Назад варочацца паволі,
Драмаць на санях і ў цішы

Снаваць за думкай думку... Бомы
То заміраюць, то гудуць.
У шлях, нікому не вядомы,
Слупы дарожнія ідуць.

Бярозы ў шэрані сівеюць,
Палі бялеюць, як паркаль.
Зіма, зіма... Снягі, завеі,
Дарога звонкая, як сталь.

Васіль Жуковіч

### ЛЯЦЯЦЬ СНЯЖЫНКІ

Глядзі, які дзянёк цудоўны:
ляцяць сняжынкі ў цішыні,
прыслухайся — ледзь-ледзь улоўны
ідзе шумочак з вышыні.

Ляцяць сняжыначкі павольна,
зачараваныя Зямлёй,
ім гэтак лёгка і прывольна
над лесам, полем, над ракой.

Ляцяць сняжынкі з сівай хмары,
як матылёчкі на святло,
і ўсё пра іх, здаецца, марыць —
і лес, і поле, і сяло.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКИХ

Платон Варанько

### Казка пра рукавічку

Учора Галачка-сястрычка
Казку прачытала,
Як у лесе рукавічка
Звярам домам стала.

Я пакінуў рукавічку
За горадам, дзе лес.
Але не зайчык, не лісічка
І шэры воўк туды не ўлез.

Мабыць, вельмі замалая
У мяне рукавічка.
Узяў у мамы са стала я,
З ложка ў сястрычкі.

Рукавічак, мабыць, з пяць,
У лес аднёс —
Звяры хай спяць.

### Муха-звер

Муха — муха-цакатуха
Села Грышку аж на вуха.
Грышка чуе — нешта гудзе
І як крыкне: — Звер ідзе!

І смяюцца ўсе цяпер,
Што для Грышкі й муха — звер.

Пераклаў
з украінскай мовы
Валеры Бабей

### НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

**Сонца** заходзіць у густыя воблакі — перад дажджом, зімою — перад завірухай, сцюжаю.

**Кругі** вакол сонца — перад працяглымі маразамі і завірухамі.

**У печы** чырвоны агонь, гарыць хутка — перад маразамі, белы агонь у печы, гарыць дрэнна — перад адлігаю.

**Дровы** ў печы гараць моцна, полымя з шумам імкне ў трубу — перад завірухаю.

**Дым** ад кастра ці печы ўзнімаецца слупам — да сухога надвор'я, зімою — перад маразамі; у марозныя нявétраныя дні раптам дым сцелецца па зямлі — перад непагаддзю.

* * *

Ад лютага зіма збягае цёмнымі начамі.

**Студзень** упусціць — люты падбярэ.

**Як** у лютым адгукнецца, так у жніўні адазвецца.



## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

### КАРЫСЦЬ

— Мішка, ты цешышся, калі я прыходжу да вас?

— Так, дзядзька! Кожны раз мама дае мне рубель, каб я не пытаўся, чаму ў цябе такі чырвоны нос...

### АБЯЦАННЕ

У канцы школьнага двара схаваліся два вучні і кураць.

— Дзе ты навучыўся так кольцы з дыму пускаць?

— Калі я буду добра вучыцца, то бацька паабяцаў, што яшчэ не такому мяне навучыць!

### ХІТРЫ ІВАН

— Іван, ты вялікі хлопчык, а прымушаеш маленькага Петрыка несці і свой, і твой партфель?!

— Гэта я вучу яго дапамагаць старэйшым.

### ЗАПЫТАЙСЯ Ў МАМЫ

— Тата, ты не ведаеш, дзе ляжаць Кардыльеры?

— Запытайся ў мамы. Яна заўсёды перакладае ўсё з месца на месца!

(В.Б.)



*Мышка Пік-Пік любіць паесць смачненькае.*

*Мал. Марты Галёнкі*

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Беларусь, 220047, г. Мінск, вул. Несцерава, д. 88, корпус 1, кв. 16, **Зіноўева Даша** (вучыцца ў 5 класе, хоча перапісвацца з дзяўчынкай 11-12 гадоў).

* * *

Беларусь, 210029, г. Віцебск, вул. Праўды, д. 41 А, кв. 17, **Хашкоўская Вікторыя** (10 гадоў, любіць чытаць, збірае рэцэпты страў і парады маладой гаспадыньцы, паштоўкі, каляндарыкі).

* * *

Беларусь, 211120, Віцебская вобласць, г. Сенна, Школа-інтэрнат, д. 1, кв. 2, **Пагарэльскі Юра** (11 гадоў).

* * *

Беларусь, 122120, Віцебская вобласць, г. Сенна, Школа-інтэрнат, д. 2, кв. 8, **Букаты Аляксандр**(хоча пасябраваць з хлопчыкам ці дзяўчынкай 12-13 гадоў, цікавіцца музыкай, фільмам, збірае ўкладкі ад жавачак, рэзьбіць у дрэве).

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



**Адшукай на гэтым малюнку домік і дрэўца, якое пры ім расце.**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ВЕРСІІ ✺ КУР'ЁЗЫ ✺ СЕНСАЦЫІ

## РАЗВЕДЧЫКІ — ЗДРАДНІКІ

*(працяг)*

У верасні 1957 года Хахлоў прымаў удзел у канферэнцыі ў Франкфурце. У пэўным моманце нечакана яму стала дрэнна, ён страціў прытомнасць і адкуль ні вазьмі — пачаў ванітаваць. Рвота не спынялася. Паслалі па лекара, які сцвердзіў сімптомы, характэрныя для катару страўніка. На пяты дзень у хворага на твары паявіліся карычневыя плямы, вочы пачалі гнаіцца, а — як бы гэтага было яшчэ мала — пачалі вылазіць валасы. Цераз поры ў скуры сачылася кроў. У хворага павысілася тэмпература і пачала трасці ліхаманка.

Ратаваць жыццё Хахлову паклікалі выдатных спецыялістаў. Шакіруючы дыягназ паставіў таксіколага, які заявіў, што пацыента атруцілі радыёактыўным таліем. Зрабілі аналіз крыві. Фактычна — пачаўся распад белых крывяных шарыкаў, кроў замянялася ў плазму ды пачалі мякнуць косці. Жыццё пацыента вісела на валаску.

Акаловіч дамогся прыезду амерыканскіх лекараў. Хворага завезлі ў вайсковую бальніцу. Урачы падавалі карцізон, навейшыя прэпараты і ўсе вядомыя вітаміны. Цэлыя суткі пералівалі яму кроў і без перапынку ўводзілі ў арганізм спецыяльны фізіялагічны раствор. Сіла волі Хахлова, яго вялікая прага жыцця і ўсе намаганні медыцынскага персаналу зрабілі сваё. Хворы паступова вяртаўся да здароўя! (...) Зараз Хахлоў вучыць у адным з амерыканскіх універсітэтаў.

Неўзабаве пасля няўдачнай спробы атраўлення Хахлова, КДБ распачаў паляванне за іншымі праціўнікамі савецкага рэжыму, у тым ліку за лідэрамі Арганізацыі украінскіх нацыяналістаў — Львом Рэбетам і Сцяпанам Бандэрам. Забіць першага з іх даручылі Багдану Сташынскаму, па нацыянальнасці ўкраінцу, які добра ведаў нямецкую мову. Таму месцам яго тэрарысцкай дзейнасці была Германія.

У 1957 годзе ён чатыры разы ездзіў у Мюнхен. Складаў план забойства Рэбета. Цікавіла яго ўсё, што было звязана з асобай эмігранта, з кім Рэбет хадзіў на прагулкі, штодзённы расклад яго заняткаў, маршруты паездак да працы і назад дадому, сродкі транспарту, якімі ён карыстаўся.

У адзін пагодлівы, цёплы верасनёўскі дзень да Сташынскага прыехаў афіцэр з маскоўскай спецлабараторыі КДБ і ўручыў незвычайную зброю ў выглядзе металічнай трубкі. Пісталет зараджаўся спецыяльнымі ампуламі. У інструкцыі прыводзіліся падрабязныя дадзеныя: шкляныя ампулы былі напоўнены цыянавадароднай кіслатой. Пасля стрэлу з ампул распылывалася кіслата, а шкло разбівалася ў парашок. Словам забойца не пакідаў ніякага следу: ні гільзы, ні знакаў на целе ахвяры. Атрута выклікала гвалтоўны сціск крывяносных сасудаў і інфаркт. Яе не ўдавалася выкрыць у часе анатаміравання. Справа ў тым, што на працягу лічаных хвілін сасуды вярталіся да нормы.

Афіцэр з лабараторыі „Камера", азнаёміўшы з навейшай спецзброяй, параіў перад кожнай аперацыяй абавязкова прыняць проціяддзе.

Каб наяўна пераканацца ў эфектыўнасці „трубкі", Сташынскі і іншыя агенты разведкі паехалі ў лес пад Берлінам. Тут усё было гатова да правядзення эксперыменту. На ўзлессі да дрэва прывязалі гарэзлівага сабаку. Багдан выпіў невялікую таблетку і панюхаў вадкасць у адкрытай ампуле. Пасля гэтай працэдуры ўзяў у рукі трубку. Раздаўся глухі трэск. У адно імгненне сабака, перакуліўшыся на бок, здох. Без ніякага сковыту, ніякага гуку.

9 кастрычніка 1957 года Сташынскі прыехаў у Мюнхен. Кожны дзень ён сачыў за Рэбетам, будучы ў поўнай гатоўнасці выканаць заданне пры любой спрыяючай нагодзе.

Кожны ранак піў пэўную дозу транквілізатара. Пасля разам са сваёй аховай ехаў на сустрэчу з Рэбетам. 12 кастрычніка ён падпільнаваў яго на сходах будынку офіса, дзе былы лідэр АУН працаваў. Калі Рэбет праходзіў міма, агент дастаў трубку з кішэні і стрэліў яму проста ў твар.

Што далей было з забойцам і ахвярай, чытайце ў „Ніве" праз тыдзень.

Апрацаваў
**Янка Целушэцкі**

## ✶ВЕР-НЕ-ВЕР✶

Дарагі Астроне! Снілася мне, што я трымала ў руках кветку. Яна быццам бы расла ў вазонніцы, а вялікія зялёныя сцябліны звісалі можа на нейкі метр. Я з гэтай кветкай стаяла ў сваёй сяброўкі на панадворку. І раптам найбольшая сцябліна адарвалася і паляцела на зямлю. Я стаю і думаю сабе, што ж гэта такое... Тады паглядзела я, а сцябліна гэта была ці то гнілая, ці то нейкая ссохлая, рыжая. І я вырашыла, што так здарылася напэўна таму, што я яе не палівала. Таму яна высахла і адвалілася.

Снілася мне таксама, што мая бабуля, якая памерла больш дваццаці гадоў таму назад і ніколі мне раней не снілася, цяпер абнімала мяне за шыю.

І яшчэ адзін сон. Снілася мне таксама, што мая свякруха са свёкрам паставілі сваёй дачцэ новы прыгожы дом з двух пакояў і кухні. Я хадзіла па гэтым доме і аглядала яго. Праўда, дом яшчэ не быў закончаны і месца ў ім было нямнога, зрэшты, пакойчыкі былі невялічкія. У гэтым жа доме ляжаў зарэзаны вяпрук, але не ведаю, каму ён быў прызначаны: свякрусінай дачцэ ці нам.

І яшчэ мне снілася, што мой муж прынёс мне з працы дзесяць мільёнаў злотых. Я так уцешылася, што нікому столькі не заплацілі як яму.

Мілы Астроне! Што могуць абазначаць мае сны?

**Валя**

Валя! Усе твае сны не зусім добрыя. Сведчаць яны аб тым, што нешта ў тваім жыцці „зламаецца", як зламалася тая кветка, якая мела абазначаць для цябе вялікую радасць. У гэтым кантэксце нічога добрага не абазначае і сон пра тваю бабулю-нябожчыцу, якая абнімала цябе. Што датычыць сну пра новы дом свякрухі і свёкра, дык і ён бадай каб не абазначаў іхнай смерці! Той зарэзаны вяпрук няўхільна сведчыць аб нейкай хваробе і смутку. А нават і тыя дзесяць мільёнаў, якія так узрадавалі цябе, думаю, прадвяшчаюць адваротнае. Удачы, пэўна, не будзе!

**АСТРОН**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Мне 33 гады, але перажыла ў жыцці ўжо нямала. Выйшла я замуж за чалавека, якога зусім не кахала. Быў ён, аднак, багаты, а гэтага мне якраз не хапала ў жыцці. Мой муж старэйшы за мяне на 15 гадоў. Мы працавалі ў той час у Беластоку. Тады я не здавала сабе справы, якія могуць быць вынікі нашага супольнага жыцця. Усё было някепска, пакуль не нарадзіліся дзеці. Мой муж вырашыў пераняць гаспадарку і мы вярнуліся на вёску. Але тут муж пачаў штораз мацней звязвацца са сваімі сябрукамі і хадзілі штодзень выпіваць каля крамы.

У хаце пачалося пекла. Даводзілася працававаць і за сябе і за мужа. Дзяцей брала з сабой у поле. З усяго гэтага я страціла здароўе, стала вельмі нервовая і пагоршаў зрок. Я нават прабавала скончыць жыццё самагубствам, але ў апошні момант падумала пра дзяцей.

А вось сёння ў мяне ізноў вялікі клопат, і без цябе я ніяк не дам сабе з ім рады. Не маю да каго звярнуцца, лекара стыдаюся і не ведаю, што рабіць. Вось ужо мінула паўтара года, як я стала зусім абыякавай на пачуцці мужа да мяне. Бо ўсё ж такі раней яго словы і пяшчоты рабілі на мяне ўражанне, у нейкай ступені мне гэта нават падабалася, хаця вялікімі пачуццямі да гэтага чалавека я не палала. Сёння сексуальныя справы ў мяне выглядаюць вельмі кепска. Пры зносінах з мужам я пачала адчуваць агіду, а да таго яшчэ і боль. Парай, калі ласка, што мне рабіць і як пазбыцца далейшых стрэсаў. Памажы, дарагое Сэрцайка, каб я магла ізноў, як некалі, хоць крыху адчуваць прыемнасць пры зносінах з маім мужам. Сёння я ўжо старэйшая жанчына, але думаю яшчэ пра сям'ю і маіх дзетак. У мяне ж дзве дзяўчынкі, якія ходзяць у школу — адна ў пяты клас, другая — у першы. Ім бацька патрэбны і, магчыма, для іх варта ўратаваць нашу сям'ю, нягледзячы на ўсё. Ён іх кахае. Калісьці я хацела адыйсці з імі, дык ён сказаў, што заб'ецца.

Дарагое Сэрцайка, можа, ёсць нейкі лек у аптэцы, каб можна было яго купіць без рэцэпта? Ці абавязковы візіт у лекара?

**Крыся**

Крыся, даражэнькая 33-гадовая старушка! Табе ж толькі жыць ды кахацца. Навошта старыць сябе без пары?

Агіда і боль пры палавых зносінах — дзве розныя справы. Збрыднуць муж табе меў права: ты ж яго ад пачатку не кахала. Іншая справа, што мог ён раскахаць цябе з часам, тым больш, што быў старэйшы за цябе і вопытны. Але прымушаў цябе да працы за дваіх, ты цягалася ў поле з малымі дзецьмі ў той час, калі ён з сябрукамі стаяў пад крамай і выпіваў піва. Болі, бадай, ты з гэтай прычыны не павінна была адчуваць. Раю табе перш за ўсё звярнуцца да лекара-гінеколага, каб праверыў, ці ўсё ў цябе ў парадку. Калі саромеешся лекара-мужчыны, ідзі да гінеколага-жанчыны.

Усе ж ходзяць, бо лекар мае права аглядаць чалавека з усіх бакоў. На тое ён і лекар, каб лячыць у чалавека тое, што яму баліць.

**СЭРЦАЙКА**




# З МАННЫ

**Запяканка**

На запяканку бярэм: 3 шклянкі манны, 6 шклянак малака, 3—4 збітыя яйкі, 4 поўныя лыжкі сцертага на тарцы жоўтага сыру, 5 лыжак маргарыну ці масла (растапіць), 1 лыжачку солі, бешамелевы соус.

1. Манну ўсыпаць у каструльку, заліць 2—3 шклянкамі халоднага малака. Рэшту малака закіпяціць, уліць у манну, перамяшаць, пасаліць. Увесь час памешваючы, давесці да кіпення, паменшыць агонь і варыць кашу, пакуль не стане яна густая. Тады зняць з агню.

2. Збіць яйкі, перамяшаць іх з кашай, дадаць сцерты на тарцы жоўты сыр і растопленае масла ці маргарын (3 лыжкі) і ўсё дакладна перамяшаць. Пераласжыць на малую прамавугольную бляшку і пакінуць, каб каша астыла.

3. Астуджаную кашу парэзаць на квадраты, пералажыць на бляшку, змазаную маслам ці маргарынам, пасыпаць зверху сырам і грудкамі масла.

4. Запякаць у гарачай духоўцы (200 градусаў) на працягу 15 мінут.

5. Квадраты запяканкі падаваць, палітыя гарачым бешамелевым соусам.

Прапорцыя для 4—5 асоб.

**Бешамелевы соус** робім наступным чынам.

На 2 лыжкі масла ці маргарыну бярэм паўлыжкі дробна пасечанай цыбулі, лыжку дробна пасечанага сэлера, 2 лыжкі мукі, 2 з паловай шклянкі малака, лаўровы лісток, соль, перац і мускатны арэх (мушкаталовую галку) па смаку.

Масла ці маргарын растапліваем у каструльцы, дадаем цыбулю і сэлер і смажым на малым агні, пакуль цыбуля не стане празрыстай. Тады ўсыпаем муку і смажым яе, памешваючы мінут 5 на малым агні. Уліваем паўшклянкі малака і даводзім да адпаведнай гушчыні, пастаянна памешваючы. Тады разводзім засмажку рэштай малака і кіпяцім. Дадаем лаўровы ліст, перац, соль і мускатны арэх. Варым на малым агні 10 мінут, а тады працэджваем праз густое сіта. З пададзеных прадуктаў атрымаецца каля 2 шклянак соусу.

**Кнэдлі**

Узяць 1—1,5 шклянкі манны, 1 шклянку раздробленага тварагу, 1 вялікае збітае яйка, 1 лыжачку солі.

1. Сыр сцерці з яйкам і соллю на аднастайную масу, паступова дадаваць па лыжачцы манны, каб атрымалася цвердаватае цеста.

2. З цеста рабіць шарыкі велічыні валошскага арэха, часта змачваючы рукі.

3. У вялікай каструлі закіпяціць пасоленую ваду, класці ў яе кнэдлі, варыць сем мінут. Выняць і асушыць на сіце.

4. Падаючы, паліць цертай булкай, падсмажанай на масле, або мясным соусам, які застаўся з абеду.

Прапорцыя для 4 асоб.

**ГАСПАДЫНЯ**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ГВАЛТ

Кідаешся на яе раптоўна, знянацку. Нічога з гэтага не атрымоўваецца. Яна вышмыгваецца зноў! Даганяеш яе, заціскаеш пальцы на яе слізкіх круглых кшталтах, затрымоўваеш яе. Праз хвілінку яна будзе твая... Не, яна змагаецца далей, калечыць твае пальцы, упіваецца ў далоні... Ты лаешся, але не пакідаеш дужацца. Яна павінна зразумець, што ў яе няма шанцаў. Пасля шалёнай барацьбы, прыдушваеш яе ўсім цяжарам свайго цела і бярэш нож. Яна яшчэ робіць спробу ўцячы, але паступова слабее, здаецца. Яна ўжо твая.

Цяпер можаш ганарыцца сабою. На працягу толькі дваццаці мінут табе ўдалося адкрыць банку рускіх шпротаў у алею. Смачнай ежы!

**Гумар з барадою**

### ЯК РОБІЦЦА КАР'ЕРА?

Трэба рабіць масаж спіны аж да поўнага яе схілення ўніз, да гэтага дадаць развіццё мускулаў — каб імі можна было моцна націскаць патрэбныя для гэтае аказіі пружыны; адсутнасць асабістага гонару і як найбольш апломбу.

### ЯК РОБІЦЦА ШЧАСЦЕ?

Яно ніяк не робіцца, бо...яго няма.

### ЯК РОБІЦЦА ПАСОЛ?

Бярэцца моцнае горла, да яго прывязваецца вёрткі, як верацяно, язык, дадаецца кругленькі жывоцік. На час выбараў накладваюцца ланці і кажух, а пасля выбараў лакеркі і фрак.

— А галоўнае што?

— Галоўнае — вялікая, як лапата, лапа, каб мог добра заграбаць дыеты.

### ЯК РОБІЦЦА ПАДПІСЧЫК?

Бярэцца бланк паштовы, пішацца на адной староны яго: „Рэдакцыя „Маланка", Вільня, Гэтманская вул. н-р 4, а збоку свой адрас. Зверху пішацца, колькі высылаецца грошай /8 зл. на год, 4 зл.— на паўгода і 2 зл. — на тры месяцы/...

— А галоўнае што?

— Галоўнае, каб падпісчык не чакаў напамінання аб падпісцы, а сам прыслаў яе акуратна.

**„Маланка", 1928 г.**
*/Са зборніка „Гэй, смалі, страляй, маланка!"/*





*Мал. А. Папова („Вожык")*







# СКУПАСЦЬ

У адной вёсцы жыў вельмі скупы чалавек. Ніхто не заходзіў да яго і ён сам нікога не наведваў. Сумна яму жылося. Неяк ён даведаўся, што ў суседняй вёсцы таксама ёсць скупы чалавек і ўцешыўся.

— Урэшце буду мець сябра, — падумаў.

Неўзабаве выбраўся ён у госці да будучага сябра. Прыйшоў вечарам. Толькі прывіталіся, а гаспадар зараз згасіў фанар.

— Чаму вы патушылі святло? — здзівіўся госць.

— Нашто дарэмна газу марнаваць. Мы бачылі адзін аднаго і хопіць, а размаўляць і ўпоцемках можна, — растлумачыў гаспадар.

Раптам госць пачуў, што гаспадар коўзаецца на столку.

— Што вы робіце?

— Нагавіцы скідаю.

— А навошта?

— Нашто дарэмна выціраць іх. У хаце і без нагавіцаў пасядзець можна.

— Ого! — падумаў госць. — Хоць я і скупы, але такога скнару яшчэ не бачыў. Не будзем мы сябрамі.

# ВАЙНА

— Гавораць, што будзе вайна, — кажа Косця Юрэю.

— Так! Як пайду на вайну, то да ўсіх буду страляць, усіх біць, — гаворыць Юрэй.

— А што будзе, калі хто стрэліць у цябе?

— Ну! А за што страляць у мяне?!

**АЎРОРА**

**ІМПАРТГУМАР**

Муж і жонка едуць у аўтамашыне з хуткасцю 160 кіламетраў на гадзіну.

— Ну і хуткасць! А што з намі будзе, калі кола адляціць? — пытае жонка.

— Не хвалюйся, у мяне ёсць запаснае.

xxx

Размова двух сяброўак:

— Твой жаніх недалікатны. Пакуль ты гаварыла з ім, ён пазяхаў разоў дзесяць.

— Ён не пазяхаў, а спрабаваў мне адказваць.

xxx

З размовы сяброўак:

— Як ты думаеш, што найлепш скарыстаць пры націранні падлогі?

— Мужа.

xxx

Міхась з Кастусём, п'яненькія, гартаюць падручнік:

— Хто гэта? — спытаў Міхась, паказваючы малюнак.

— Га-лі-лей, — адказаў Кастусь.

— Хто ён?

— Вучоны. Адкрыў, што зямля круціцца...

— А-а-а-а, калега, значыць...

xxx

— Больш піць не буду! — заявіў Міхась.

— Малайчына.

— І менш таксама!

xxx

Майстар пытае мантажніка:

— Чаму ты ўчора не быў на рабоце?

— Ды хварэў.

— А даведка ёсць?

— Даведкі няма, а пячатка ёсць, — адказвае мантажнік, паказваючы сіняк пад правым вокам.

xxx

— Тое, што касір украў грошы і ўцёк, я разумею. Але навошта ён узяў з сабою і жонку дырэктара?

— Як жа! Каб дырэктар яго не шукаў.

xxx

— Ну як, дружа, кавалерскія справы?

— Дрэнь. Дзяўчаты дзядзькам называюць.

xxx

— Хадзем Алесь, на рыбалку!

— Дык я ж не ўмею лавіць рыбу.

— А што там умець? Налівай ды выпівай.

xxx

Жонка гаворыць мужу, які сядзіць першы раз за рулём машыны:

— Асцярожней! Ты хіба не бачыш знак „Небяспечны паварот"?

— Іменна таму я і хачу праехаць прама.

xxx

Доктар:

— Мой дружа, цябе трэба аперыраваць.

— Аперыраваць! Ніколі! Лепш памерці!

— Адно другому не перашкаджае...

*Падборку зрабіў Янка Целушэцкі*

# КАСЯК НА „Р"

**Управа:** 1/ часам яе трымаем, а часам ёю пішам, 3/ цячэ, 5/ забеспячэнне перад небяспекай, 7/ паміж сківаіцамі, 9/ прыйсці да выніку, пастановы, 12/лірычны любоўны верш, 14/ шые хамуты, 15/ ухіленне судна ад курсу /„кітайскае збожжа + к/.

**Улева:** 2/ змена становішча, перамяшчэнне, грамадская дзейнасць, 4/ выбухнуў у Чарнобылі, 6/ апраўка для карцін, люстраў, 8/ адрознівае цябе ад жывёл, 10/ прыхільнік крайніх і рашучых дзеянняў, 11/ недэмакратычны дзяржаўны лад, 13/ сябра мясніка, 16/ алейная расліна (1/2 рапсодыі).

**„ядань"**



Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

Адказ на касяк з н-ра 51. Управа: званок, знак, зброя, задатак, зарапад, замена, замок, зара. **Улева:** зубр, знаток, зародак, заказ, закалец, захад, загана, зона.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Аляксандр Дабчынскі і Лукаш Пацэвіч з Беластока.

******************************************************************

**Ніва**

„Niwa", ul.Suraska 1, 15-950 Białystok skr. pocz. 149, tel. 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne, 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11,tel.435-118.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. *Рэдагуе калектыў: Мікола Ваўранюк, Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Янка Целушэцкі (карэктар), Ада Чачуга (адказны сакратар).*

I.Prenumerata pocztowa
1.Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1992 r. upływa 20 lutego 1992 r.
2.Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 19.500 zł + 6.500 zł za doręczenie.
3.Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
II.Prenumerata własna - prowadzona przez wydawcę.Cena 1 egz.z wysyłką wynosi 3000 zł..

Cena prenumeraty miesięcznej:
- luty – 12 000 zł.
- marzec – 15 000 zł.
- kwiecień – 12 000 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3203-132.

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016